**Ала Сямёнава**

# Таямніцы пакутны колер

*Эсэ. Апавяданні*

Мінск
Выдавецтва «Про Хрыста»
2004

УДК 821.161.3-4+821.161.3-32
ББК 84(4Беи)-44 С99

Серыя заснавана ў 2002 годзе.
Рэдактар серыі К. Лялько

Сямёнава А.

Таямніцы пакутны колер: Эсэ. Апавяданні / Ала Сямёнава. — Мн.: «Выд-ва „Про Хрыста"», 2004 г. — 104 с. — (Бібліятэка часопіса «Наша вера»).

ISBN 985-6628-40-7.

Таямніца Веры, невымоўная рэальнасць - да яе мы імкнёмся дачытацца ва ўсіх выявах існавання: падчас Святой Імшы, у малітве, у малітоўным роздуме, у размаітым асэнсаванні рэчаіснасці, у моўленым і напісаным слове. А ў прапанаванай кнізе - у думках над перакладам на беларускую мову твораў Святога Айца Яна Паўла II, над духоўна-рэлігійнымі вершамі і апавяданнямі беларускіх свецкіх аўтараў, у лірычна-філасофскіх эсэ, апавяданнях. Аўтар кнігі спрабуе асэнсаваць адвечныя тэмы: жыццё і смерць, пакуты і збаўленне, віна і пакаянне...

Сэнсаваня насычанасць зместу выдання спалучаецца з выразнасцю стылю, роздум абапіраецца на веданне фактаў і рэалій, што робіць кнігу цікавай для розных чытачоў.

УДК 821.16I.З-4+281.161.3-32
ББК 84(4Бей)-44



ISBN 985-6628-40-7

# ззянне праўды

**ЗЗЯННЕ ПРАЎДЫ**
**Сведчанне паводле надзеі**

Слова, прасякнутае «ззяннем Праўды». Голас Наступніка святога Пятра, Вікарыя Хрыста, Біскупа Рыма, Святога Айца — Папы Яна Паўла ІІ. Голас таго, чыю непараўнаную інтэнсіўнасць дзейнасці адзначаюць нават далёкія ад веравызнаўчых прыхільнасцяў рэпарцёры СМІ: ні адзін палітык не можа пахваліцца такой актыўнасцю.

Гэта не дакументы Апостальскай Сталіцы, не энцыкліка і не Апостальскае пасланне. Гэта — адказы Папы Яна Паўла ІІ на пытанні вядомага італьянскага пісьменніка і журналіста Вітторыё Мэссоры. Кніга-дыялог пад назвай «Пераступіць парог надзеі» (Рым — Люблін — Мінск, 1997). Кніга, у якой адчуваецца і «шматзначнае, урачыстае «мы» — голас тысячагадовай таямніцы Касцёла», і спавядальнае «я» Папы Яна Паўла ІІ перад усім чалавецтвам. На думку тэолагаў, гэта непасрэднае, вольнае ад схемаў і фільтраў адлюстраванне рэлігійнага і інтэлектуальнага свету Яна Паўла ІІ.

Кніга-дыялог «Пераступіць парог надзеі» стала бестселерам у каталіцкай літаратуры, яна перакладзена больш як па дваццаці! моваў свету, выдадзена мільённымі накладамі, стала неад'емнай часткай духоўнай культуры ўсяго хрысціянскага свету. Для каталікоў — творам, неабходным у іх глыбокім і цэласным досведзе жывой Веры ў Бога і ў існае быццё, творам, што дае адчуванне найвышэйшай, усё падпарадкоўваючай Рэальнасці, якая ўваходзіць у сферу звычайнага інтэлектуальнага, пачуццёвага жыцця чалавека. Для хрысціянаў іншых канфесій — гэта Слова чалавека, які вызнае еднасць хрысціянскіх Цэркваў як ісціну жыцця і спосаб існавання, звяртаецца з малітвай да Пана Бога, каб Ён выявіў сваю Ласку і хрысціяне «не засталіся раздзеленымі перад выклікам трэцяга тысячагоддзя», бо «мацнейшы за ўсе расчараванні сам факт пачатку шляху, які павінен весці ўсіх хрысціянаў да еднасці». «Не бойцеся», — гэтымі словамі распачаў свой пантыфікат Папа Ян Павел ІІ. «Не бойцеся!» — працягвае ён свой дыялог з людствам, — не бойцеся духу Евангельскай Праўды».

Аўтар кнігі звяртаецца і да тых, хто вагаецца паміж верай і бязвер'ем, яго развагі цікавыя і ўсім адукаваным людзям, бо гэта Слова мудрага і натхнёнага мысляра, які вядзе дыялог з сучаснаю

думкаю, Слова «чалавека ведаў, узнёслага і духовага». Мабыць, гэтую кнігу прачытаў і не адзін атэіст, хаця, калі мець на ўвазе апошніх, заўсёды прыгадваецца думка Блэза Паскаля: «Атэісты павінны сцвярджаць толькі тое, што відавочна, але хіба відавочная матэрыяльнасць душы?»

Гісторыя кнігі «Пераступіць парог надзеі» досыць незвычайная. Вітторыё Мэссоры з ініцыятывы RAI — Італьянскага радыё і тэлебачання — збіраўся наладзіць акцыю, што не мела прэцэдэнту ў гісторыі папства: павесці тэледыялог са Святым Айцом з нагоды пятнаццатых угодкаў яго пантыфікату.

Выпадак выключны. Але ж і пантыфікат Яна Паўла II — надзвычай адметны. Ён адбываецца ў духоўнай прасторы пасля Другога Ватыканскага Сабору, пасля яго найважнейшых Пастановаў — «Аб экуменізме» («Unitatis Redintegratio»), «Аб рэлігійнай свабодзе» («Dignitatis humanae»). Скасаваная двухбаковая анафема Рымскага Касцёла і Канстанцінопальскай Царквы. Менавіта Папа Ян Павел II сустрэўся ў Рыме з Патрыярхам Канстанцінопальскім Варфаламеем на супольнай малітве ў Вялікую Пятніцу 1994 года і ў дзень апосталаў Пятра і Паўла 29 чэрвеня 1995 года.

Працягваючы высокія ініцыятывы Яна XXIII, які па Божым натхненні склікаў Другі Ватыканскі Сабор, што «адкрыў экуменічны шлях у гісторыі Касцёла», Ян Павел II робіць усё, каб дыялог у хрысціянскай супольнасці набыў інтэнсіўнасць і паміж лаўцамі Божых Таямніцаў, прапаведнікамі Евангелля — святарамі, і паміж людзьмі свецкімі, людзьмі думкі: праз сустрэчы і дыскусіі прыродазнаўцаў, фізікаў, біёлагаў, гісторыкаў (у прыватнасці, так званыя інтэрдысцыплінарныя сустрэчы ў Кастэль Гандольфа) і творчыя сустрэчы прадстаўнікоў розных канфесій... Гэта і ўвага да людзей творчых прафесій, таму што толькі еднасць з Хрыстом дапамагае не адрынуць, а сакральна асвяціць быццё, вярнуць Творцу «памножаныя таленты».

Пілігрымкі Яна Паўла II цяжка пералічыць: ён адчувае абавязак, бачыць сваё пастырскае Пакліканне ў тым, каб несці народам свету пропаведзь Евангелля, лічыць патрэбным мець хаця б беглае знаёмства з мовамі краін, у якія ён плануе вандроўку.

Энцыклікі, прамовы, лісты — сведчанні найвышэйшага дару Духа Святога: дару мудрасці, розуму, ведаў, развагі, мужнасці, пабожнасці і боязі Божай... Як і ў тэалагічных працах «Тамісцкі персаналізм», «Каханне і адказнасць», «Этыка і маральная тэалогія», «Асоба і ўчынак», «Роздумы аб смерці» і інш., як у шматлікіх паэтычных і драматургічных творах.

Папа-неспадзяванак — азначэнне, што з самага абрання спадарожнічала Яну Паўлу ІІ. Ды і само абранне было досыць неспадзяваным. Папа — са Славянаў, паляк... Першы ў гісторыі папства.

...Адным словам, тэледыялогу чакалі. Аднак абставіны склаліся так, што тэлеінтэрв'ю не адбылося. І ўсё ж Папа Ян Павел ІІ, прачытаўшы пытанні Вітторыё Мэссоры, падрыхтаваў пісьмовыя адказы. З'явілася унікальная кніга.

Яна выйшла ў свет увосень 1994 года ў Італіі і амаль аднлачасова па мове арыгіналу ў Польшчы. А ў 1995 годзе ў № 1 часопіса «Наша вера» з'явіўся першы фрагмент кнігі ў перакладзе на беларускую мову.

Па шчырасці, стала чытаць насцярожана. Кніга Святога Айца ўпершыню ў перакладзе на беларускую мову з яе малараспрацаванай тэалагічнай лексікай, адсутнасцю тэалагічных даведнікаў, сістэматызаваных слоўнікаў... Тут не толькі найвялікшая мера адказнасці.

Перакладчыцу я ведала... Крыстына Лялько ў беларускай літаратуры адразу звярнула на сябе ўвагу. Займела творчую прыхільнасць Янкі Брыля, Яна Скрыгана. Пра яе шмат пісалі, часта згадвалі. Пісала пра яе і я. Таленавіты празаік. Многія з яе апавяданняў можна ўключаць у анталогіі. Яе аповесць «Лес» чытаецца так, нібыта аўтарка падслухала запаветнае, патаемнае... Высловіла, увасобіла ў вобразы... Таму пісалася пра яе з асаблівым настроем — не толькі з відавочнасці таленту, але і з блізкасці светаадчування, вызначаных ёю сістэмаў этычных і эстэтычных каштоўнасцяў: лірычная проза, духоўная звышрэальнасць, якая выбудоўваецца на канкрэтным, звычаёвым матэрыяле, на эмпірычнай фактуры рэчаіснасці. І — поўнае супадзенне ўнутранага стану і настрою твораў са спосабам іх выяўлення: сэнсавым, рытмічным, слоўным.

...Пісала я пра Крыстыну Лялько, не ведаючы яе асабіста. Пабачыўшы, адразу згадала выслоўе: «Imago animi multus est» — «Твар — люстэрка душы». І тое самае аблічча, калі згадваецца корань гэтага слова: лік. Адчувалася таямніца. І моц характару.

Увогуле ж існуюць людзі, прысутнасць якіх у грамадстве бывае вызначальна важнай — незалежна ад таго, ці маем мы асабістыя стасункі з імі ці не. Ёсць духоўныя масткі, паасобнае і ў нечым сутыкальнае творчае існаванне, плён ідэй у агульным часе рэальнасці... «Spiritus fiat ubi vult» — «Дух лунае, дзе хоча».

А ўвасабленнем духу і інтэлекту становяцца выданні. Так, з Божай ласкі, з благаславення Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Свёнтка, высокімі намаганнямі каталіцкага клеру Беларусі, з натхнёнай творчай працы каталікоў і людзей, што вызнаюць

хрысціянскія каштоўнасці, з'явіліся часопісы «Ave Maria», «Наша вера», «Маленькі рыцар Беззаганнай», «Дыялог». Урэшце — кнігі серыі «Бібліятэка „Нашай веры"», выданні выдавецтва «Про Хрыста».

«Праблемы духоўнасці, гісторыя хрысціянства, гісторыя каталіцызму на Беларусі, сучаснае рэлігійнае і духоўнае жыццё, найбольш значныя падзеі і найбольш цікавыя навінкі беларускай і замежнай хрысціянскай літаратуры», увасобленыя ў літаратурныя творы розных жанраў звесткі «аб трагічных і дасюль невядомых лёсах каталіцкіх святароў і старажытных беларускіх святыняў, матэрыялы беларускіх і замежных вучоных, гісторыкаў і тэолагаў, жыццярысы беатыфікаваных і кананізаваных — усё гэта, абвешчанае як праграма ўзноўленага каталіцкага друку, здзяйсняецца на старонках згаданых выданняў. Хрысціяне Беларусі, чытачы нашай краіны атрымалі магчымасць мець у сваім духоўным і інтэлектуальным ужытку тое, чаго вельмі доўга былі пазбаўленыя: духоўнае слова. Найперш — гэта пераклады кніг Святога Айца: «Пераступіць парог надзеі», «Дар і Таямніца», энцыкліка «Вера і розум» («Fides et ratio»).

Стала відавочным і тое, што пацвердзіў ужо ўвесь, не толькі хрысціянскі, свет: з'яўленне кнігі Папы Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі» — Падзея, магчымасць спрычыняцца да Таямніцы і Вышыні думкі Яго Святасці Яна Паўла II. Але ж Падзея і пераклад кнігі — першай ластаўкі з тэалагічнай літаратуры на Беларусі.

...Прачытаўшы дыялог у часопісе, я наноў і наноў вярталася да яго ў кніжным выданні. Раіла прачытаць іншым. І асмелілася даць сведчанне: хрысціянкі, шараговай каталічкі, удзячнай чытачкі, суб'ектыўнае сведчанне чалавека, які мае прафесійнае дачыненне да літаратуры і друку.

...У кнізе «Пераступіць парог надзеі» Вітторыё Мэссоры задае пытанні, разлічаныя на шырокую і разнастайную аўдыторыю. Ведаючы спрэчкі стагоддзяў, існаванне розных, але аднолькава абмежаваных «сусветных ідэалогій», ведаючы праблемы, якія спрадвеку хвалявалі людзей. Перакананы і адукаваны каталік, Вітторыё Мэссоры, між іншым, у ранняй маладосці быў агностыкам і належаў да антыклерыкальнай левай групоўкі, асабіста зазнаў высокае азарэнне Евангельскай Праўдай. І задае ён пытанні часам нават «правакацыйныя». Але, як пазначае сам пісьменнік, у яго было «ўражанне, што Суразмоўца чакаў менавіта гэтага, а не... прыдворнага падтаквання»...

35 пытанняў і адказаў.

Сярод іх тыя самыя, «правакацыйныя», так бы мовіць, ад імя апанента: «Ці Бог сапраўды існуе?», «Ці актуальныя яшчэ доказы існавання Бога?», «Але чаму Бог хаваецца?»

Працытую некаторыя фрагменты. Але адразу мушу адзначыць, што сістэма мыслення Святога Айца так вызнае Першапачатковае і неэмпірычнае, тое, што нельга вызначыць, так адчувае повязь містычнага досведу, рэлігійнай сузіральнасці іншых Святых Айцоў, а таксама вызначальнікаў думкі былых часоў (філосафаў, мысляроў, тэолагаў), што нават стараннае цытаванне і спробы паразважаць даюць вельмі прыблізнае ўяўленне пра сапраўднае Слова тэксту.

І ўсё ж...

«Пытанне аб існаванні Бога найглыбей звязана з мэтанакіраванасцю чалавечага быцця. Гэта не толькі справа розуму, але таксама справа чалавечай волі, больш таго, справа чалавечага сэрца».

Святы Айцец вядзе гаворку пра абмежаванасць пачуццёвага вопыту, пра «школу недаверу» пазітывістаў: «Пазнавальны рэалізм аднолькава, як і так званы наіўны, гэтак жа, як і рэалізм крытычны, пагаджаецца з тым, што «nihil est in intellectus, quod prius non fuerit in sensus» («няма нічога ў інтэлекцe, чаго найперш не было б у пачуццях»). Аднак межы гэтага «sensus» не з'яўляюцца выключна сэнсуалістычнымі. Вядома ж, чалавек пазнае не толькі фарбы, адценні або формы, але пазнае прадметы цэласна... Такім чынам, ён пазнае ісціны па-надпачуццёвыя, альбо, інакш кажучы, трансэмпірычныя. Нельга таксама сказаць, каб тое, што з'яўляецца трансэмпірычным, пераставала быць эмпірычным». Тут варта, мабыць, згадаць, як рэальнасць абвяргае неабвержнымі доказамі абмежаваных эмпірыкаў — і пазітывістаў, і матэрыялістаў-марксістаў: напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя тэорыяй адноснасці Эйнштэйна і «Новымі пачаткамі геаметрыі...» Лабачэўскага: напрыканцы XX стагоддзя — катастрофай Чарнобыля, прадказанай у «Адкрыцці Яна Багаслова»: зорка Палын.

Перамогу трансэмпірыкі над відавочнасцю спрабаваў абвергнуць У. Ленін («Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм»), які дыскусійна-зацята, эмацыйна зрабіў спробу класічнай рэдукцыі (спрошчвання), аднак пахіснуць трансэмпірычнай ісціны не змог. (Хаця ў савецкай навуцы гэта праца была ледзь не кананізаваная.) Перакрэсліць адкрыцці Апостала не спрабаваў ужо, здаецца, ніхто...

Трансэмпірычная Ісціна...

...Суразмоўца ж Вітторыё Мэссоры працягвае сваю думку: «...сам Бог не з'яўляецца прадметам чалавечай эмпірыкі, што па-свойму

падкрэслівае і Святое Пісанне: «Бога ніхто ніколі не бачыў і ўбачыць не можа» (Ян 1,18).

Але чаму? І тут Папа Ян Павел II падводзіць нас да аднаго з галоўных пастулатаў хрысціянскай веры: «Мы становімся сведкамі знамянальнага вяртання да метафізікі (філасофіі быцця) праз інтэгральную антрапалогію. Немагчыма ўявіць чалавека без гэтых адносінаў да Бога, якія з'яўляюцца для яго галоўнымі», «...дарога вядзе не столькі праз асобы і спатканне асобаў „я" і „ты". Гэта галоўнае вымярэнне быцця чалавека, якое заўсёды — субыццё».

Далей у сістэме сваіх доказаў Ян Павел II вызначыць: «Наша вера — глыбока антрапалагічная», — і звярне ўвагу на «аб'яўленне Бога ў бачнай чалавечнасці Хрыста».

Вось тут вельмі важны паварот думкі. Але: «...чалавек не ў стане вытрываць лішку Таямніцы...», таму і «ў пярэдадзень мукі апосталы прасілі Хрыста: «Пакажы нам Айца» (Ян 14, 8). Адказ Хрыста застаецца ключавым: «Чаму вы кажаце: „Пакажы нам Айца". Ці ж вы не верыце, што Я ў Айцу, і Айцец ува Мне? (...) Верце Мне па саміх учынках (...). Я і Айцец — Адно» (Ян 14, 9, 11; 10).

...Чалавек не вытрываў ведання Таямніцы, і была Галгофа, і былі Змёртвыхпаўстанне і Унебаўшэсце... Чалавек не вытрываў і жыцця паводле Запаветаў Евангелля — злачынстваў, здрадаў, адступніцтва было куды больш, як здзяйсненняў волі Хрыстовай. І ў антычны перыяд, і падчас Сярэднявечча, і ў так званы новы час, і ў найноўшы. Жыццё паводле Евангелля засвойвалася толькі асобамі, празарэнне Евангельскай свядомасцю не прымала агульнага, сусветнага маштабу. Як заўважыў праваслаўны святар, тэолаг Аляксандр Мень, «прыход на зямлю Богачалавека не вызначае канца барацьбы паміж святлом і цемрай, а палярызуе іх з падвойнай сілай».

Войны, хваробы, несправядлівасць, пакуты — усё гэта правакуе людзей задаваць пытанне: «Як Бог мог дапусціць такое?» Зямля ўсё ж, паводле святога Аўгустына, «De civitate Dei» — «дзяржава Божая». Задае такое пытанне і Вітторыё Мэссоры: ад імя таго ж умоўнага апанента.

«Бог бяссільны перад чалавечаю свабодаю, — высноўвае сваю думку Ян Павел II. — Можна сказаць, што Бог расплачваецца за той вялікі дар, дадзены ім істоце, якую Ён стварыў „на свой вобраз і падабенства" (Быц 1,26). У адносінах да гэтага дару Бог паслядоўны. І таму Ён становіцца перад судом чалавека, перад узурпатарскім трыбуналам, які задае Яму правакацыйныя пытанні: „Ці праўда, што ты Цар" (Ян 18, 37). Ці праўда, што ўсё, што адбываецца на свеце, у гісторыі Ізраіля, у гісторыі ўсіх народаў, залежыць ад Цябе?»

Мы ведаем, які адказ даў Хрыстус на гэтае пытанне перад судом Пілата: «Я на тое нарадзіўся і на тое прыйшоў на свет, каб сведчыць аб праўдзе» (Ян 18, 37). Але ў такім выпадку: «Што такое праўда?» (Ян 18, 38). І на гэтым заканчваецца судовы працэс, той драматычны працэс, у якім чалавек паставіў Бога перад судом свае ўласнае гісторыі. Але вырак не выносіцца згодна з праўдаю. Пілат кажа: «Я ніякае віны ў Ім не знаходжу» (Ян 18, 38; 19, 6), а праз хвіліну абвяшчае: «Вазьміце Яго і ўкрыжуйце вы» (Ян 19,6). Так умывае ён рукі і скідае адказнасць на агрэсіўны натоўп».

Чытаем далей: «Суд над Богам становіцца судом над чалавекам. Боскае і чалавечае вымярэнні гэтае падзеі сустракаюцца, перасякаюцца, ушчыльняюцца».

І тут Ян Павел II вядзе размову пра цуд самаахвяравання, цуд Выкуплення і Збаўлення. Менавіта Крыж Хрыста — сімвал «усёмагутнасці прыніжэння, і Бог, апрача таго, што Ён — усёмагутнасць, адначасова Ён і Мудрасць, і... Любоў...» Укрыжаваны Хрыстус — доказ салідарнасці Бога з церпячым чалавекам».

Хрысціянства — рэлігія сатэрыялагічная (ад грэцкага soteńa — збаўленне), рэлігія збаўлення. «Сын Божы не прыйшоў у свет, каб судзіць свет, але каб свет збавіць» (Ян 3,17). «Збавіць — гэта значыць ахінуць і пранікнуць адкупленчаю любоўю, тою любоўю, якая заўсёды большая за які-кольвечы грэх», «...укрыжаваны Хрыстус — доказ салідарнасці Бога з церпячым чалавекам. Бог становіцца на бок чалавека, становіцца самым радыкальным чынам». Прынізіў Сябе Самога, прымаючы постаць раба, стаўшы паслухмяным аж да смерці крыжовай (Флп 2, 7-8).

Аднак гэтае цярпенне, як тлумачыць прэфект Кангрэгацыі Навукі Веры, найбліжэйшы дарадца Папы Яна Паўла II у пытаннях тэалогіі кардынал Ёзаф Ратцынгер, «...можа быць актыўным дзеяннем, барацьбою... (...). І гэта барацьба можа быць плённаю і творчаю толькі тады, калі яна адухоўлена духам цярпення, сапраўднаю любоўю».

І трэба ўмець, даводзіць Папа Ян Павел II, згледзець і адчуць Знакі Провіду, Знакі Часу — у пачутым напярэдадні кастрычніцкай рэвалюцыі трыма партугальскімі дзецьмі з Фацімы, што «Расія навернецца», або ў факце абрання Папы «з далёкага краю» напярэдадні зруйнавання таталітарных рэжымаў. Хаця нельга разумець тыя Знакі спрошчана і літаральна. «Чалавек вучыцца на ўласных памылках. Чалавецтва таксама вучыцца на сваіх памылках, а Бог вядзе яго пакручастымі шляхамі ягонай гісторыі».

Тэадыцэя — асноўны стрыжань, краевугольны камень і камень «преткновения»... І — трэба чытаць: магу мовіць наноў. Бо ўсе парафразы — толькі парафразы...

Надзвычай павучальнае і цікавае, мне здаецца, не толькі для католікаў, веданне, як моліцца Папа, што для яго малітва. «Унутраная прастора Яго малітвы» — радасць і надзея, а разам з тым смутак і трывога сучасных людзей. Евангелле — гэта значыць добрая вестка, а Добрая Вестка — заўсёды заклік да радасці». «Евангелле — гэта перадусім радасць ад стварэння». І не можа быць месца ніякай «нірване», што вызнаюць будызм і джайнізм, ніякай апатыі.

«Універсальная малітва» Папы, у якой — клопат пра ўсе Касцёлы, мае і тую аснову, што ў кожнага верніка. Гэта размова, у якой «заўсёды ёсць „я" і „ты", у дадзеным выпадку „Ты" пішацца з вялікай літары». «І вядучым застаецца „Ты", у якім бярэ пачатак наша малітва».

Ян Павел II мудра і разважліва распавядае пра сваё пакліканне і кананічную місію і з незвычайным адчуваннем Боскай ісціны даводзіць, што ўсе яго вызначэнні — Намеснік Пятра, Біскуп Рыма, Святы Айцец, Ваша Святасць, нават Намеснік Хрыста — «трэба разумець у поўным кантэксце Евангелля». І Ян Павел II прасочвае «генезіс» гэтых паняццяў паводле Евангелля: «На гэтым фоне, а гэта фон гістарычны, усе такія выразы, як «Намеснік Хрыста», «Ваша Святасць», «Святы Айцец» — мала важныя. Важна тое, што вынікае з смерці і змёртвыхпаўстання Хрыста. Важна тое, што сыходзіць з моцы Духа Святога. У гэтым сэнсе Пётр і разам з ім іншыя апосталы, у першую чаргу Павел, пасля свайго навяртання сталі сапраўднымі сведкамі Хрыста, ажно да праліцця крыві».

І Ян Павел II звяртаецца да мудрасці папярэднікаў на Святым Пасадзе: «Святы Грыгорый Вялікі (...) з усіх тытулаў, звязаных з функцыяй Біскупа Рыма, выдзяляў тытул Servus Servorum Dei — Слуга Слугаў Божых».

Што тут дадаць?

У кнізе «Пераступіць парог надзеі» ёсць вельмі важная размова пра экуменізм, пра тое, што хрысціянам «трэба адкрываць тое адзінства, якое de facto ўжо існуе», пра тое, што пасля Другога Ватыканскага Сабору пазначылася зусім іншая атмасфера ў суіснаванні хрысціянскіх канфесій. Папа Ян Павел II робіць канкрэтнае падсумаванне: «Цана гэтай еднасці велізарная. У пэўным сэнсе гаворка ідзе аб будучыні свету, аб будучыні Валадарства Божага ў свеце. (...) Можам спадзявацца, што «Той, хто пачаў у нас добрую справу, сам яе завершыць» (Флп 1, 6). Можна дадаць — нягледзячы на

ўсе перашкоды, што чыняць тыя, хто разумее Вучэнне Хрыста зусім не адпаведна Яго Высновам.

Ян Павел II нагадвае і аб стаўленні да іншых рэлігій, цытуючы «Дэкларацыю аб адносінах Касцёла да нехрысціянскіх рэлігій» («Nostra aetate»): «Хоць на працягу стагоддзяў паміж хрысціянамі і магаметанамі паўставала шмат спрэчак і варожасці, Святы Сабор заклікае ўсіх сцерці з памяці мінулае і шчыра імкнуцца да ўзаемаразумення і супольна аберагаць і развіваць сацыяльную справядлівасць, маральнае дабро, мір і свабоду ў інтарэсах усяго чалавецтва». Папа з павагай і веданнем вядзе размову пра сутнасць усходніх рэлігій, і, як і ў дачыненні да хрысціянскіх канфесій, ён падтрымлівае тэалагічныя тэарэтычныя высновы канкрэтных фактаў: гэта малітоўныя сустрэчы ў Асізі, малітва аб міры ў Босніі ў 1993 г., візіт у Марока па запрашэнні караля Хасана II, сустрэчы з паслядоўнікамі ісламу падчас апостальскіх падарожжаў у Афрыку і Азію. «Незабыўнаю была сустрэча з моладдзю на стадыёне ў Касабланцы» (1985), — падкрэсліць Ян Павел II. — «Уражвала адкрытасць маладых на слова Папы аб веры ў адзінага Бога».

Да маладых у Папы Яна Паўла II асаблівае стаўленне. На іх — надзея. Ён так і гаворыць: «У дзень інаўгурацыі Пантыфікату, 22 кастрычніка 1978 года, пасля заканчэння літургіі, я сказаў маладым людзям на плошчы святога Пятра: „Вы — надзея Касцёла і свету, вы — мая надзея". Гэтыя словы я паўтараю пастаянна».

У кнізе — размова пра Евангелле і правы чалавека, пра якаснае абнаўленне хрысціянства, пра новую евангелізацыю... Пра многае... У духу Евангельскай Праўды.

І на пачатку трэцяга тысячагоддзя, у складаных абставінах рэчаіснасці, падводзячы вынікі духоўнага досведу, шукаючы новыя крыніцы жыццёвай энергіі, шукаючы сэнсу Быцця, важна спрычыніцца да Найвышэйшай Рэальнасці, да Пераможнага Жыцця ў розных яго выяўленых. Чытаючы Святое Пісанне, звяртаючыся да спадчыны Святых Айцоў, да працаў тэолагаў і філосафаў, раскрыўшы кнігу Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі». І — у любых абставінах — адчуць атмасферу надзеі, што натхняе тых, хто спадзяецца здабыць вопыт Прамоўленага і Невымоўнага, згадаць пра меру Вялікага, Існага, па-за мітуслівай марнасцю, прасвятліць свядомасць...

І — згадаць наноў, што хрысціянства — рэлігія Збавення, што толькі паяднанасць з Езусам дапамагае далучыцца да Боскага жыцця.

І — ва ўсіх турботах згадаць: «Post tenebras spero lucem» — «Спадзяюся на святло пасля цемры».

## SURSUM CORDA!

### Да хвалы Алтароў

Выпрабаванні высокія і найцяжэйшыя вызначае Пан Бог — лепшым і абраным. Каб пакутамі сваімі яны садзейнічалі нясенню Крыжа ў яго збаўчым значэнні і сэнсе.

І абраныя здзяйсняюць Высокую Волю. І бяруць на сябе хваробы і цяжкасці нашага недасканалага свету. Гэта тыя, кім трымаецца грэшны свет, што загразнуў у войнах, забойствах, ашуканстве, распусце. Святыя... Што ішлі за Хрыстом яшчэ ў сваім зямным жыцці, здзяйсняючы ўчынкі на хвалу Божую і прыносячы ў ахвяру саміх сябе.

Святыя... Тыя, да каго звяртаемся мы ў сваіх малітвах...

...Святасць нельга даследаваць, нельга спазнаць, даведацца, што ёсць Affectus mystycus...

Але адчуць Боскасць цуду, уславіць святых, узнесеных да хвалы Алтароў, мы імкнёмся. Тым больш, калі гэты цуд адбыўся не недзе там, далёка, а вось тут, на нашай зямлі. Тут была прынесена высокая Ахвяра.

Законніцы, назарэтанкі... Яны аддалі сваё жыццё дзеля жыцця многіх. Жыхароў Навагрудка. І 5 сакавіка 2000 года 11 законніц былі вынесеныя да хвалы Алтароў, адбылася іх беатыфікацыя ў Апостальскай Сталіцы.

«Я ўславіў Цябе на зямлі: завяршыў справу, што Ты даў Мне зрабіць» (Ян 17, 4) — так магла б сказаць кожная з 11 сясцёр з супольнасці Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, што былі расстраляныя фашыстамі 1 жніўня 1943 года паблізу Навагрудка. А ў сваіх малітвах яны прасілі: «Божа, калі патрэбна гэтая ахвяра, няхай лепей нас расстраляюць, а не тых, хто мае сем'і — молімся аб гэтым».

На тую пару ў вязніцы знаходзілася 120 чалавек, асуджаных на расстрэл. Паўставала пагроза і жыццю адзінага на той момант святара ў горадзе, ксяндза Аляксандра Зянкевіча. Сястра Стэла, якая выконвала абавязкі маці-абатысы, звярталася з малітвай ад імя ўсіх сясцёр: «Мой Божа, святар больш неабходны, чым мы, на гэтым свеце, дык молімся цяпер, каб Бог забраў лепей нас, чым ксяндза, калі ёсць патрэба ў новай ахвяры».

...Ахвяра сясцёр змяніла ход зямных падзей: выратавала і вязняў — усе перажылі вайну, — і ксяндза.

Сёстры Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта з'явіліся ў Навагрудку ў 1929 годзе па запрашэнні біскупа Зыгмунта Лазінскага, каб

апекавацца касцёлам Перамянення Пана — так званай Белай Фарай — і каб прысвяціць сябе выхаванню і адукацыі дзяцей і моладзі. Гэта было прызначэннем сясцёр. Тых, што замацавалі сваю вернасць Хрысту крывёю. Што спазналі асноўнае ў сабе.

Хто ж яны?

С.М. Стэла ад Найсвяцейшага Сакраманту (Адэля Мардасевіч). Па адукацыі — настаўніца. Глыбокая вера, дабрачыннасць, адухоўленасць, імкненне дапамагчы бліжнім сваім вызначалі яе высокую прадвызначанасць як нявесты Хрыстовай.

С.М. Імэльда ад Езуса Гостыі (Ядвіга Караліна Жак). Таксама настаўніца. Займалася з міністрантамі ў касцёле, яны згадвалі пра яе як пра надзвычай добразычлівую, нібыта асветленую нейкім унутраным святлом.

С.М. Раймонда ад Езуса і Марыі (Ганна Кукаловіч). Хваравітая, яна цяжка пакутавала ад артрыту, але была выпрабаваная цярпеннем. «Вольны ад хатніх, гаспадарчых абавязкаў час праводзіла ў капліцы ля ног Езуса, утоенага ў Найсвяцейшым Сакраманце», — так сведчаць пра яе.

С.М. Даніэля ад Езуса і Марыі Беззаганнай (Элеанора Анэля Юзвік). Усё рабіла з мяккай пакорай, найбольш апекавалася дзецьмі, асабліва ўбогімі.

С.М.Канута ад Пана Езуса ў Садзе (Юзэфа Хробат). Гісторыя яе паклікання была незвычайная. Пра кансэкраванае жыццё ніколі не мела думак. Бацькі збіраліся выдаць яе замуж. Але ў сне Юзэфа пачула голас: «Не выходзь за Станіслава, твой Абраннік чакае цябе ў Гародні і як шлюбны падарунак дасць табе чырвоную сукенку». І ў 1921 годзе яна была прынятая ў супольнасць назарэтанак.

Сястра С.М. Канута мела дар сузіральнай, кантэмпляцыйнай малітвы. Дзівілася ў гаворках з сёстрамі, што сон не цалкам спраўдзіўся — мела на ўвазе «чырвоную сукенку». Ажно спраўдзілася і гэтае наканаванне...

С.М. Сергія ад Маці Божай Пакутнай (Юлія Рапей). Прынятая ў супольнасць у 1922 годзе, распачала навіцыяцкую фармацыю ў Гародні, а потым разам з іншымі сёстрамі была накіраваная ў Амерыку. Калі яна пасля вечных шлюбаў збіралася вярнуцца на радзіму, сёстры з Філадэльфіі спрабавалі затрымаць яе: пагроза другой сусветнай вайны ўжо відавочна навісла над Еўропай. Аднак сястра Сергія адказвала, што «не баіцца..., бо не мае нічога, што магла б даць Пану Езусу за Яго Любоў, а таму прагне аддаць Яму сваё жыццё і не баіцца пакутніцтва». Ці не было тут таксама містычнага адчування сваёй вызначанасці, як і ў сястры Кануты?

С.М. Гвідона ад Міласэрнасці Божай (Алена Церпка). Заўсёды поўная весялосці і радасці, адданая малітве і працы. Бачыла ў ахвяраванні чыстае і яснае святло даверу да Пана Бога, найвышэйшую магчымасць спраўдзіць абранасць Богам.

...Сярод сясцёр-пакутніц чацвёра мелі часовыя шлюбы.

Самая маладая, 1916 года нараджэння, сястра С.М. Барамея (Вераніка Нармантовіч) у супольнасць уступіла ў 1936 годзе ў Гародні і, атрымаўшы навіцыяцкую фармацыю, склала першыя шлюбы 5 жніўня 1939 года. Неўзабаве прыехала ў Наваградак. Вытанчаная, таямнічая, замкнёная, увесь час у малітве, яна адчувала крызіс паклікання і атрымала гэты высокі дар — пакутніцтва — як знак пераадолення часовай слабасці.

Тры іншыя сястры не склалі вечныя шлюбы з-за вайны.

С.М. Феліцыта (Паўліна Баравік) склала першыя шлюбы пасля навіцыяту ў Гародні ў 1935 годзе і адразу прыехала ў Наваградак. Ціхая, нясмелая, худзенькая, але вельмі працавітая, яна мела любоў і павагу ўсіх, хто з ёю сутыкаўся.

С.М. Халіадора (Леакадзія Матукоўская) была прынятая ў супольнасць у 1933 годзе, пасля атрымання навіцыяцкай фармацыі ў Гародні склала першыя шлюбы і выехала ў Наваградак. Народжаная ў Старой Гуце, скончыла чатыры класы нямецкай агульнаадукацыйнай школы. Шчырая, шчодрая, яна атрымлівала сапраўдную радасць ад служэння на карысць іншым.

С.М.Каніцыя (Яўгенія Мацкевіч) уступіла ў супольнасць назарэтанак у сталым узросце, у 30 гадоў, у 1933 годзе. Першыя шлюбы складаў 1936 годзе. Працавала настаўніцай. Імкнулася малітвай і асабістым сведчаннем перадаць дзецям тое, што было асновай супольнасці назарэтанак: пашырэнне Валадарства Божай Любові.

Ахвяра сёстраў — іх смерць — была добраахвотным выкупленнем за жыццё іншых, сведчаннем веры ў Бога сярод панавання нянавісці і злачынства. Іх ахвяра — напамін пра існаванне Боскага Быцця, поўнае здзяйсненне харызмату супольнасці, узор моцы Духа Святога...

## Sic Fata tulere (voluerunt)

З усіх законніц назарэтанак, што апекаваліся Белай Фарай і займаліся выхаваннем дзяцей і моладзі, жывая засталася адна — сястра Малгажата (Банас). Калі па назарэтанак прыйшлі з гестапа, яна была на працы ў шпіталі, і ў тым таксама, мабыць, вызначылася воля Провіду. Сястры Малгажаце наканаваны быў іншы падзвіжніцкі

шлях. Менавіта яна ўратавала касцёл Перамянення Пана ад рэзруху і занядбання (згадаем, што касцёл дамініканаў у Навагрудку ваяўнічыя атэісты спачатку ператварылі ў сховішча, потым ён гарэў і толькі зусім нядаўна бажніца святога Міхала была адноўленая і адчыненая для вернікаў).

Белая Фара доўгія паваенныя гады, ажно да 100-х угодкаў з дня смерці Адама Міцкевіча ў 1955 годзе, не мела святара, аднак дзверы касцёла былі заўсёды адчыненыя. Парафіяне ішлі да святыні, якую даглядала, ахоўвала, ратавала сястра Малгажата. Яна жыла пры касцёле, не адзін і не два гады — у муры. Пазней прыняла пакуты цяжкой хваробы — раку лёгкіх.

Ёй дапамагалі многія вернікі, найперш пані Магда Жукоўская і сёстры (не законніцы, сёстры паводле нараджэння) Жыжылеўскія. У хаце Жыжылеўскіх пазней, як адчынілі святыню, жылі сястра Малгажата і пробашчы Белай Фары.

Усё гэта згадваю не з нейчых слоў, не паводле якіхсьці сведчанняў: сястру Малгажату добра ведала — атрымала такі дарунак Лёсу.

Не было ў нас школкі пры касцёле, не было заняткаў катэхізісам... Афіцыйна панаваў атэізм. Але толькі афіцыйна... Душа загадаў і дырэктываў не прымае. Забараніць веру ў Бога нельга. І нельга было пазбавіць нас, дзятву, моладзь, высокага ўплыву Касцёла, хрысціянства. Высокага ўплыву сястры Малгажаты. Адчування яе духоўнага дару. Яе малітоўнага заступніцтва за нас. Яе падзвіжніцкага жыцця, што выяўлялася нібыта і незаўважна. Яна паглыблялася ў малітвы[1].

...Сястра Малгажата была жывой сведкай веры, якую імкнуліся бараніць вернікі, змагаючыся за лёс Белай Фары.

Аднак — ці было б што адчыняць, каб не сястра Малгажата, каб не яе шматгадовы подзвіг аховы касцёла і таго святога месца пры ім, месца вечнага спачыну яе сясцёр у Хрысце.

...А ў касцёле і каля яго адчуваліся нейкія найвышэйшыя магчымасці Быцця, непрыкметна адкрывалася таямніца першаснай

---

[1] 119 лютага 2003 года быў распачаты беатыфікацыйны працэс сястры Марыі Малгажата ад Сэрца Пана Езуса, канаючага ў садзе Аліўным.
17 чэрвеня 2003 года адбыліся урачыстасці з нагоды эксгумацыі слугі Божай сястры Малгажата. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі ардынарыі! Гродзенскай дыяцэзіі біскуп Антоні Дзям'янка, дэлегат ад прымаса Польшчы, кс. доктар Стэфан Козьнік, прамотар справядлівасці кс. Габрыэль Барташэўскі OFM, Генеральная маці Супольнасці Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта Марыя Яніца Фулмер з Рыма, кіраўнічка назарэтанскай правінцыі ў Варшаве сястра Люцына Карнацка, віцэпастулярка беатыфікацыйнага працэсу сястра Францішка Худа з Рыма; першы натарыус сястра Дамініка Паўлік, другі натарыус сястра Амата Навашэўска, даручыцель лістоў беатыфікацыйнага працэсу сястра Эльвіра Праколак; сёстры-настаяцельніцы з Польшчы і Беларусі, сёстры і навіцыяткі Назарэтанскай Супольнасці, а таксама сведкі жыцця і адданай веры сястры Малгажата.

тоеснасці Праўды і Любові. Мне пашчасціла жыць каля святыні, і аўра яе наваколля была неад'емнай ад існавання. Маіх землякоў. І майго.

### Ad limini Apostolorum

Мне ўжо даводзілася пісаць пра гэта (часопісы «Хрысціянская думка», «Беларусь», «Наша вера», мая кніга «Святло загадкі»). Аб распачатым працэсе беатыфікацыі сясцёр назарэтанак я ведала. Аднак не спадзявалася і на такую яшчэ шчодрасць Нябёсаў: удзел у пілігрымцы ў Апостальскую Сталіцу — на сакральны Акт беатыфікацыі.

...Тры аўтобусы, тры аўтакары — пілігрымы з Гродзенскай дыяцэзіі (два — з Гародні, адзін — з Наваградка).

28 лютага мы, пасля Святой Імшы, з біскупскага благаславення, выпраўляемся ad limini Apostolorum — да Апостальскіх парогаў.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка развітваецца з намі да Рыма і дае благаславенне на дарогу нашым душпастырам: ксяндзу Яраславу Грынашкевічу (ён апякуецца ўсімі аўтакарамі, ці, больш правільна, — усімі пілігрымамі), ксяндзу Аляксандру Сасноўскаму (з наваградскай Белай Фары), айцу-кармеліту Казіміру Мароўскаму, айцу-францішканіну Славаміру Дандэрскаму і ксяндзу Алегу Шпену. А напярэдадні пілігрымкі Богу было заўгодна, каб я атрымала гонар займець аўдыенцыю ў нунцыя Апостальскай Сталіцы арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага (нагадаю — 2000 год) і атрымаць яго благаслаўлёны перад гэтым шляхам. І яшчэ — адбылася вельмі важная, знакавая сустрэча — з сястрой Гертрудай — з Супольнасці Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта. І законніца — сваёй хрысціянскай пакорай, мудрасцю, спагадлівасцю, адданасцю харызматычнаму пасланніцтву Супольнасці назарэтанак — нагадала мне светлай памяці сястру Малгажату...

...У пілігрымку выправіліся розныя людзі, аднак — відавочна — шмат моладзі, у тым ліку студэнцкай, ёсць людзі вельмі сталага ўзросту, тыя, хто памятае ІІ сясцёр назарэтанак і сястру Малгажату (напрыклад, пані Зоф'я Бародын). Едуць людзі з рознай адукацыяй, рознага жыццёвага вопыту, розных поглядаў, але ўсіх аб'ядноўвае вера «ў Бога Айца Усёмагутнага, у Дух Святы, святы каталіцкі Касцёл...». У нашым наваградскім аўтобусе едуць тры маці сённяшніх сясцёр-назарэтанак: пані Святлана, папі Гражына, папі Валянціна. Пані Святлана Стасюкевіч, маці сястры Таццяны, сядзіць у аўтобусе якраз за мной і нельга не заўважыць яе сапраўды хрысціянскую добразычлівасць, імкненне ўсім дапамагчы... Калі ж у нашым аўтобусе

спеўка чуецца «Чарна мадонна», дык гэта адметны голас пані Стэфы з Гародні.

...Малітвы. Малітоўныя спевы... Не паспяваем азірнуцца — Непакалянаў. Музей святога Максіміліяна Кольбэ, што, як і сёстры-назарэтанкі, даказаў: чалавек ёсць «нехта» цэнны, вялікі, незнішчальны ў сваім служэнні іншым, у служэнні Богу, пра веліч Якога і Яго Маці сведчыць цнатлівае хараство базылікі ў Непакалянаве і непараўнаная веліч святыні Яснай Гары ў Чэнстахове з цудадзейным абразом Маці Божай.

...З Божага благаславення мы без усялякіх прыгодаў і нягодаў праязджаем праз Чэхію, Аўстрыю, Альпы і ўраніцы 1 сакавіка апынаемся ў Венецыі.

## Царыца лагунаў

Імжыць дожджык. Шэрань, якую адны ўспрымаюць як абразу свайму ўяўленню пра горад чараў, горад-цуд, іншыя — як нармальнае надвор'е гэтай пары года, трэція — проста не задумваюцца над тым.

Невялічкі параходзік — vaporetto — імчыць нас да акваторыі Сан-Марка. За бортам — вада лагуны. І разумееш, адкуль гэтая назва фарбы — аквамарын, і чаму — mare adzurra — блакітнае мора.

А вось і знакамітыя дамы на дзесятках тысяч паляў з левантыйскага дрэва, дзе драўляны роствeрк (ніжнюю частку забудовы) пакрывае суцэльная забутка з камення. Знаёмая да драбніцаў плошча святога Марка, палац Дожаў, святыня Сан-Марка... Ламбардскія, тасканскія, візантыйскія культуровыя ўплывы, як і ўвогуле ў Венецыі.

Знакаміты сабор Сан-Марка — пяціаркавы фасад, нібыта незвычайная тэатральная дэкарацыя, пяць купалаў. Побач — стометровая кампаніла — званіца. Менавіта тут, у святыні ў гонар евангеліста святога Марка, астанкі якога, паводле падання, венецыянскія марынары выкралі з Александрыйскага кляштара, мы ўдзельнічаем у Святой Імшы...

...Толькі некалькі гадзін у Венецыі... Аднак нельга не дзівіцца гэтаму перастворанаму ў камені, вадзе, прасторы натхненню Боскаму. Згадваю былую веліч і непрамінальнае хараство Венецыі. Царыцы лагунаў...

Пра кожны з нашых пілігрымскіх прыстанкаў можна ствараць асобнае эсэ: паводле таго, што чыталася, уяўлялася, перажывалася раней і ўрэшце з'явілася віда-вочна, малітоўна асэнсавалася ў Боскай рэальнасці і Праўдзе.

## Подзвіг веры

Палова... Як гэта арганна-велічна гучыць па-італьянску. Падва — у польскай, Падуя — у нашай інтэрпрэтацыі. Плошча Вітторыо Эмануэле са статуямі знакамітых людзей. Базыліка з трыма навамі і сямю купаламі — бажніца святога Антонія. Для выяўленчага аповеду пра чалавека, якога слухалі і разумелі нават рыбы, былі запрошаныя самыя таленавітыя майстры. На фасадзе — фрэска Мантэны, у алтары — бронзавы барэльеф працы Данатэлла, у капэле Дэль Санта — мармуровыя барэльефы Антоша і Туліа Ламбардзі і Сансавіна; у знакамітым араторыі Сан-Джорджо — 16 фрэсак Тыцыяна і яго вучняў...

Былы законнік-аўгустынец, «цудоўны сасуд Духа Святога», Антоній так вызнаў навернуты лад быцця Францішка з Асізі, што перайшоў у закон францішканаў а святы Францішак называў Антонія з Падуі сваім біскупам і лічыў адным з вучняў-выбранцаў. Усё гэта і многае іншае згадваецца, калі разглядаеш створанае вялікімі мастакамі ў Падуі і ў Асізі, дзе на фрэсках вялікага Джотто святы Францішак чытае казанне птушкам, бярэ шлюб з бядотай, нішчымніцай ў выглядзе прыгожай, але змарнелай жанчыны ў лахманах, выганяе нячысцікаў з горада... І дзівішся неверагодна яснаму, радаснаму каларыту: вялікі мастак Протарэнесапсу дасягаў гэтага эфекту, наносячы першапачаткова малюнак чырвоным на груба атынкаваную сцяну, потым — слой старанна выробленай тынкоўкі, урэшце — прамалёўваў лёгкімі штрыхамі вохры першапачатковыя абрысы, потым ствараў на мокрым грунце дэталі — арнаменты, архітэктура, пейзаж — і, заканчваючы, прапісваў сюжэт па-сухому, па-сухому нагадваючы і сіні колер, надзвычай глыбокі, адкрыты, ясны. Ружовае, блакітнае, белае, залацістае — нібыта адчуваеш светлую квецень францішканства (знакамітыя «Fioretti» — «Кветачкі»). Уражанне гэтае падмацоўваецца і яркай зелянінай лугавіны, якую відаць праз шырока расчыненыя дзверы бажніцы — дзень ясны, сонечны, нібыта асвечаны Боскаю Ласкаю.

Хаця адзін з даследчыкаў святога Францішка новай хвалі — Ергенсэн — раіць прыслухацца да слоў законніка-францішканіна, які сцвярджае, што ўсё, спасцігнутае пілігрымамі ў Асізі, толькі расквітнелае францішканства, глыбокія ж карані яго, тыя бездані, з глыбіняў якіх яно звяртаецца да Бога, можна адчуць, толькі наведаўшы Алверна, высока ў гарах, дзе на самоце, у добраахвотнай скрайняй аскезе, высноўваўся подзвіг веры святога Францішка.

Madonna Macerata

...Хрысціянская культуровая спадчына — помнік трыумфавання чалавецтва перад нябесным Валадаром і Збаўцам. Высокія імгненні...

...А паміж Падуяй і Асізі былі Анкона і Ларэта.

Анкона, дзе 2 сакавіка правілася незабыўная Святая Імша на дзвюх мовах, дзе хвала Богу гучала і падчас вячэры ў радасных спевах пад акампанемент гітары айца-францішканіна («О, Пане мой!»), дзе ўвечары мы пакланіліся знакамітай святыні горада Сан-Чырыака і глядзелі з высокай гары, на якой збудавалі гэтую бажніцу, на хараство вечаровай Анконы.

Ларэта... Тут знаходзіцца Святы Дом (La Casa Santa) Маці Божай з Назарэта, які быў перанесены анёламі спачатку ў Тэрзатэ, у Далмацыю, а потым — сюды.

Тут выбудаваны базыліка і прыгожы кляштарны комплекс, дзе месціцца Дом назарэтанак і дзе наваградскія пілігрымы сустрэлі сястру Беату, што раней, разам з сёстрамі сваёй супольнасці, апекавалася Белай Фарай у Наваградку. Наступніцы тых, каго будуць беатыфікаваць...

Тут, у Ларэта, і выява высокай духоўнасці, твор высокага мастацтва: «Madonna Macerata» — «Чарна Мадонна»...

## Апостальская Сталіца

...У Вечным Горадзе мы адразу адчулі сутыкненне эпох, часу, культур, цывілізацый, канфесій. Старажытныя базылікі, святыні Сярэднявечча, Форум, Калізей і — вірлівае жыццё сучаснага горада, празаічная будзённасць рымскага метро, вандроўнікі... І — дух Вечнага Горада, Апостальскай Сталіцы... Вернікі, пілігрымы...

Базыліка святога Паўла за мурамі... Святая лесвіца... Касцёл святога Альфонса, дзе знаходзіцца абраз Маці Божай Нястомнай Дапамогі — тут 4 сакавіка правяць Святую Імшу нашы біскупы (яны ляцелі самалётам адразу ў Рым, як і сёстры-назарэтанкі).

І ўрэшце — галоўнае.

## Sursum corda!

5 сакавіка 2000 года. Раніца сонечная, ясная, урачыстая. Мы, пілігрымы з наваградскага аўтакара, у шэсць гадзін раніцы ўжо на пляцы святога Пятра. Першыя. (Жылі мы на другім канцы Рыма, у Доме пілігрымаў айцоў-салезіянаў.) Атрымліваем запрашальныя

білеты. Чакаем. За агароджу, дзе расстаўленыя крэслы для пілігрымаў, пакуль што не пускаюць.

І вось паказваюцца назарэтанкі. 22 сястры. Сённяшнія. У большасці — зусім маладыя. Сястра Таццяна (яна працуе ў рэдакцыі каталіцкага выдання ў Калінінградзе) — у абдымках маці. Усе сёстры (гэта адчуваецца) — у стане асаблівага ўзвышэння і вызначанай далучанасці да Падзеі. Як і група кабет і мужчын паважнага ўзросту з транспарантам — выхаванцы тых сясцёр-назарэтанак. Людзі з Беларусі, з Польшчы, іншых краін. Я прашу запісаць пару прозвішчаў — і адразу ўзнікае чуццё бязвіннай віны перад імі: не змагу ўсіх пералічыць. Хаця разумею: кожны з гэтых людзей пранёс праз усё жыццё святло і водсвет таго выхавання, адчуў — свядома ці падсвядома — Высокі Знак ахвяры адзінаццаці сясцёр... Ала Круповец-Вішнеўская (Шчэцін), Данута Пнеўская (Лондан), Вацлаў Тарновіч (Шчэцін), Хэлепа Палавінная (Лодзь), Аляксандр Зверка (Лодзь)...

...Праходзім за агароджу, займаем месцы ў крэслах.

У 8 гадзін — першыя званы, а ў 9 гадзін званы пачынаюць свой сапраўдны прэлюд, сугучна з прэлюдам сонца, неба, паветра. Згадваецца «Гімн сонцу» Францішка з Асізі з яго чыста біблійным, хрысціянскім успрыманнем Боскага свету. Гучыць арган — пачынаецца слоўная абвестка пра беатыфікацыю — на італьянскай, ангельскай, польскай, французскай... (Беларуская мова, на жаль, не гучыць, але ў спецыяльным кніжным выданні «Беатыфікацыя. Плошча святога Пятра, 2 сакавіка 2000» беларускі тэкст ёсць, і па Святой Імшы ў базыліцы святога Пятра 6 сакавіка Апостальскі Адміністратар для Еўрапейскай часткі Расіі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч гаворыць па-беларуску...)

Урэшце расчыняецца пурпуровая заслона — Папа Ян Павел II, кардыналы... Па двух баках плошчы — вялізныя тэлеэкраны, на іх буйным планам: Святы Айцец, Прэфект Кангрэгацыі Навукі Веры кардынал Ёзаф Ратцынгер...

Спевы ўступныя... Літургія Слова... Гамілія...

Літургія Эўхарыстычная...

Sursum corda! — Угору сэрцы!...

Цуд адчування блізкасці Божай, цуд пранікнення рэчаіснасці Божай у наш недасканалы свет, цуд дачынення да Закона жыцця Духа... Імгненні, у якіх скандэнсавалася памяць перажытага і ўсвядомленага, таго, што адчыняецца і таго, што не можа быць адкрыта, што ёсць Вечная Таямніца...

У бездані нашага адчаю — Ён з намі. І пакутніцкая ахвяра сясцёр-назарэтанак — сведчанне таго, што пакута асвячаецца прысутнасцю Таго, хто прыняў на сябе пакуты чалавецтва, Таго, для каго Закон свету — закон Любові, што перамагае жах і нянавісць...

...А ўвечары адбылася Падзея — вызначаная і найважнейшая для кожнага каталіка: аўдыенцыя ў Наступніка Пятра Папы Яна Паўла II. І пілігрымы атрымалі благаславенне Вікарыя Хрыста. І панеслі з сабою тое Святло, Святло Надзеі... Бо, як вызначаў Папа Ян Павел II, «...боязь Божая з'яўляецца збаўчаю сілаю Евангелля... Яна нараджае святых, гэта значыць, — сапраўдных хрысціянак якім у канчатковым выніку належыць будучыня гэтага свету» («Пераступіць парог надзеі», с. 158).

...Мы вярталіся на зямлю, на якой здзейснілі свой хрысціянскі подзвіг Тыя, вынесеныя да хвалы Алтароў. На Беларусь.

З Надзеяй. З Вераю.

І ў аўтобусе, што кіраваўся ў Навагрудак, чуўся гімн, прысвечаны сёстрам-назарэтанкам: «Кроў сваю пралілі, каб хто мог тут жыць...» І з агульнага хору можна было выдзеліць — можа, нават не паводле вакалу, а па нейкай прачуласці, голас прэзэса касцёла Перамянення Пана — цёзкі святога Францішка. Гімн ананімны, аднак па светлых усмешках сямейнікаў прэзэса можна зразумець, што некаторыя з аўтараў удзельнічалі ў пілігрымцы, якая для навагрудцаў і для мяне асабіста — галоўная Падзея ў жыцці.

## AFFECTUS MYSTYCUS[2]

Animus laetitia viget. — «Дух моцны радасцю».

А радасць тая была ад прадчування ўдзелу ў літургічным дзействе, што пацвярджае глыбокую, адухоўленую еднасць народа Божага: перад лікам Маці Божай Будслаўскай, у яе святыні. Радасць — ад агульнай малітвы пілігрымаў, парафіянаў і парафіянак архікатэдры — святыні Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску — у аўтобусе, што кіраваўся ў Буд слаў. Радасць — ад звычайнага цуду беларускай прыроды за вокнамі аўтобуса. Зяленіва, трава, пагоркі, пабліскванне ціхай, яркай вады — Вілейскае вадасховішча: Хараство Божага свету.

Усявышні спрыяў пілігрымцы — прахалодная ўтульнасць летняга дня, злагадны супакой прыроды. Узвышаны настрой, калі галасы набываюць асаблівае гучанне, усе мы, пілігрымы, адчувалі сябе ў новым абсягу Быцця, у новай рэальнасці, у сумеснай рэчаіснасці ў Хрысце, у сумесным імкненні да Будслаўскай святыні Яе — Марыі Панны. Імкнуцца да Яе, Маці Божай, усе народы свету, «як галубы — да галубятняў сваіх» (Іс 60, 8).

І мы — імкнуліся. І ўзносілі малітву. «Вітай, Марыя, ласкі поўная...» І спрабавалі спазнаць душою кожнае слова літанія «Сэрца Марыі, годная Святыня Найсвяцейшай Тройцы, Сэрца Марыі, Святыня Бога ўчалавечанага. Сэрца Марыі, ад граху першароднага захаванае...»

Спявалі... «Ave, Ave, Ave, Марыя... Святая Марыя, за нас маліся, Маці Хрыстова, за нас маліся...» Спявалі ўголас. І — як заўважала я неаднойчы — голас набываў нейкую асаблівую гучнасць, якой не меў ні ў якіх іншых абставінах. Толькі ў такіх спевах. Мабыць, таму, што быў і «ўнутраны спеў» душы... А «дух моцны радасцю». І хаця гэта словы чалавека дахрысціянскага свету — паэта і філосафа Лукрэцыя — у нашым выпадку дух моцны радасцю не язычніцкай, неўтаймоўнай, што здатная і на добры, стваральны дух, і на разбуральны ўчынак, а той радасцю, калі душа імкнецца ўзнесціся да вялікага прыроднага і Боскага жыцця, стаць часткаю яго, адысці ад абмежаванасці свайго будзённага чалавечага «я», увайсці крынічна ў неабсяжную, высокую плынь, што заўсёды ўзнаўляецца, вызначаецца ўваскрэслым Богам. Той радасцю, пра якую нагадваюць нам мудрыя радкі: «Вясёлае сэрца дабрачыннае, як лекаванне, а панылы дух сушыць косці» (Прып 17, 22).

---

[2] Містычнае ўзрушэнне.

І ад прасвятлення гэтай радасцю — нібыта набліжаючыся да свету вечных, нятленных сутнасцяў — мы не проста пабачылі ў сінеблакітным небе тры крыжы Будслаўскай святыні: адчулі Хараство Абсалюту, Красу Вечнага. У Знаку, Сімвале, які Сын Божы праз свае Пакуты, Прыніжэнне, Смерць са знака ганьбы і няславы ператварыў у Знак Выратавання, Знак Узнясення да Славы Божай. Тры крыжы ў небе... Знак Яго спрадвечнай Славы. Як Знакі Яго бясконцай, міласэрнай, даравальнай Любові, калі сама Смерць стала Набыткам.

Знайсці словы для таго, што адчувалася ў тыя ноч і дзень у Будславе — цяжка...

Гэтае адчуванне ззяння святасці Марыі Панны, якую Анёл Звеставання паводле Божага Слова называе «ласкі поўная» і якая, «даўшы згоду на Слова Божае, стала Маці Езуса і, прыняўшы ўсім сэрцам выратавальную волю Божую і не заплямленая ніякім грахом, ад дала Сябе цалкам, як Слуга Панская, Сыну Свайму і Яго справе, падпарадкоўваючыся Яму і разам з Ім, паводле Провіду Усёмагутнага Бога, служачы таямніцы Адкуплення» (Другі Ватыканскі Сабор. Lumen gentium. II, 56). Дык вось гэтае адчуванне Яе таямнічай святасці невераемна ўзмацнялася ў Будславе, каля выявы Маці Божай Будслаўскай, Заступніцы Беларусі. Узмацнялася і памяццю пілігрымства — Ларэта: выява Чорнай Мадонны; Чорная Мадонна Яснай Гуры; святыня Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Рыме...

Уражанне ўзмацнялася той памяццю, што ператвараецца ў чаканне. Той памяццю, што жываявераю ў Абранасць Марыі Панны. Той памяццю, што вызнае дэвіз пантыфікату Святога Айца Яна Паўла II — «Totus Tuus»: цалкам Твой, Марыя. Той памяццю, якая грунтуецца на сцвярджэнні: «сапраўднае набажэнства да Маці Божай — <...> хрыстацэнтрычнае, больш таго, яно вельмі глыбока ўкаранёна ў Трынітарнай таямніцы Бога і звязана з таямніцаю Услаўлення і Адкуплення» (Ян Павел II. Пераступіць парог надзеі, с. 149).

Так, набажэнства хрыстацэнтрычнае.,. Містычны энергетызм, пацвярджэнне сапраўднага Быцця, містычная Воля, якая ўсведамляе сябе як Вера ў Бога, Вера ў Хрыста, становіцца ўнутраным розумам — у імгненнях, калі безліч свяцільняў-свечак у руках вернікаў працінаюць цемру ночы. І радасная бязмоўнасць душы, напружанае сузіранне, адчуванне ўзвышанай натхнёнасці нагадваюць: свяцільня — сімвал прысутнасці Божай: «Ты, Пан, свяцільня мая» (2 Кар 22,29). І крыжовы шлях вернікаў асветлены гэтым святлом. І кожны, хто ў гэтай ночы нясе сваю свяцільню, падсвядома спасцігае вялікую ісціну — да выратавання можна прыйсці толькі праз дар Любові, праз Ласку: «Вітай, Марыя, ласкі поўная...»

І зямное жыццё, недасканалае, дзе столькі марнага і мітуслівага, выяўляе раптам свой патаемны сэнс, сваю веліч і хараство. А ўрачыстая Імша ўночы, калі яшчэ гараць у руках свечкі, калі гучаць у насычанай асаблівым настроем начной цішы словы малітвы (а перад тым — спевы хораў), дае спазнаць незвычайную глыбіню адарацыі.

А ўсё ва ўрачыстай працэсіі, у Імшы пад адкрытым небам (колькі пілігрымаў сабралася, каб пакланіцца Маці Божай Будслаўскай!), у начным чуванні выяўляецца ў тым незвычайным духоўным стане, што вызначаюць як affectus mystycus — містычнае ўзрушэнне. А калі я чую голас з амбоны, дык акрамя моўленага, нібыта чую яшчэ і гэтыя словы: «Калі ўсё акружала ціхая бязмоўнасць і ноч у сваім працягу дасягнула поўні, сышло з нябёсаў ад каралеўскіх алтароў усёмагутнае Слова Тваё» (Зых 18,14-15). І пачынаю разумець, як гэта можа быць — «ноч светлая, як дзень»... (Пс 138,12), «бо Бог, які сказаў з цемры заззяць святлу, засвяціў у сэрцах нашых дзеля прасвятлення нас пазнаннем славы Божае ў абліччы Езуса Хрыста» (2 Кар 4, 6).

І ў незабыўным містычным трансе не заўважаецца халодная стынь ночы і пякучы холад каменняў святыні, нават калі на каленях з малітоўнай пакорай набліжаешся да алтара, да выявы Маці Божай Будслаўскай.

А дзень надыходзіць асаблівы, праменна-сонечны. І нібыта вітанне анёльскае — над урачыстай працэсіяй, а Імша, якую правіць Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк, ва ўрачыстым святле дня дае Высокае Сведчанне пра Дзень у абсалютным сэнсе, пра Дзень Урачыстасці Боскай. І засталіся на ўскрайку свядомасці тлум выпадковых на гэтым Свяце людзей, а выявіліся Веліч і Чысціня Маці Божай, што пакліканая Провідам Божым да выратавання ўсіх нас у Веры.

Увогуле — размову можна было пачаць і з іншай праявы ўзвышанага набліжэння да Бога. Аднак — узніклі чамусьці ў памяці тыя тры крыжы ў нябёсах. То — успрыняла як Знак. А працягваючы свой аповед, згадаю з пілігрымкі сваіх суседак па аўтобусе. Так адбылося — моладзь у асноўным рассяродзілася ў двух іншых аўтакарах, а ў нашым — найбольш кабеты статэчныя і мужчыны, так бы мовіць, блізкія да біблійнага ўзросту. Строгія ў аскезе сваёй — і прасветлена шчаслівыя. Таму што з імі і ў іх багацце і набытак, моц, што перастварае нас: Любоў Хрыстова, Ласка Маці Божай. Як яны непадобныя да тых, што я часта бачу ў тым раёне ў Мінску, дзе я жыву, і міжволі чую, як прыціснуў іх друз і бруд, як зачыніліся для іх

нябёсы... Знешне гэтыя, мае суседкі па аўтобусе, падобныя да іх. Але толькі знешне.

Затое нагадваюць яны мне парафіянак маёй Белай Фары — касцёла Перамянення Пана ў родным Навагрудку — тых, што хадзілі да святыні і тады, калі там не было святара і не адпраўлялася Імша, калі ўлады лічылі вернікаў ледзь не ворагамі народа. Гэта яны, тыя верніцы, захавалі сваю і нашу Веру.

Сабіна Касінская (цяпер — сястра Тэрэза)... Зоф'я Бародын... Ядвіга Пісарук... Марыя Каравайская... Многія іншыя. Яны з тых, на кім трымаўся Касцёл у доўгія гады афіцыйнага ваяўнічага атэізму, з тых, для каго найсвяцейшая Ісціна: Бог ёсць Любоў. У высокім сэнсе. І ў звычаёвым. Яны з тых, дзякуючы каму вера жыла і жыве ў наступных пакаленнях.

Сёння многія прыходзяць у касцёл, не толькі шануючы традыцыю сям'і, але дзякуючы місіянерскім высілкам святароў, клерыкал законнікаў, законніц, дзякуючы Богам благаславёнаму штуршку ўласнай душы... Кожны мае права... А тыя жанчыны памятаюць іншы час. Памятаюць, як свята берaглі на Беларусі веру — неафіцыйна. Многія? Ці шмат іх было? Яны — былі... Гэта важна. Яны памятаюць падзеі, факты... Неяк нагадалі мне, як мая маці ўсю Імшу на пахаванні сястры Малгажата (той самай адзінай назарэтанкі, што засталася жывою з навагрудскай супольнасці і памерла ў 1966 годзе) прастаяла на каленях. Увогуле — нічога асаблівага. Мабыць, я і не згадвала б гэтага. Аднак, распавёўшы, пры выпадку, пра тое аднаму знаёмаму, чалавеку дасведчанаму, адукаванаму, удзельніку Біблійнай камісіі, я ў адказ пачула: «І ніхто недадае!» Абыў 1966 год. І маці мая — беспартыйная, нечыноўная, аднак асоба афіцыйная — адвакат. Пра тое, што яна пісала бясконцыя петыцыі, каб адчынілі для вернікаў дзверы Белай Фары, мала хто ведаў. А тут — навідавоку... Усю Імшу на каленях.

Але — не маглі яны даносіць, мае землякі. Вернікі. Хрысціяне. Каталікі. Тыя, дзеля каго прынеслі сваю ахвяру сёстры-назарэтанкі, тыя, што адчуваюць прысутнасць іх Духу, іх Святасці тут, на гэтай зямлі.

Памятаю гэтых жанчын у Наваградку і І жніўня 2000 года, у Дзень Урачыстай Падзякі «за жыццё, пакутніцтва і беатыфікацыю с. М. Стэлы і 10 сёстраў з супольнасці сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта», як было пазначана ў запрашэннях з подпісам: Przełożona prowincjalna. Дзень, што быў азначаны ўнутраным імкненнем, малітоўным напружаннем, натхнёнай пакорай і нябачнай, але адчувальнай прысутнасцю ўзнесеных да хвалы Алтароў пакутніц-

назарэтанак, якім было дадзена «дзеля Хрыста не толькі верыць у Яго, але і пакутаваць за Яго» (Флп 1, 29). І вернікі з ўсёй Беларусі, з розных дыяцэзій Польшчы адчувалі вялікую еднасць, перамяненне, навяртанне духоўнае, Любоў — бо толькі таму, хто любіць, адкрываецца пазнанне Бога. І ўсім былі зразумелыя словы нунцыя Апостальскай Сталіцы арцыбіскупа Даміміка Грушоўскага, хаця прамаўляў ён на славацкай мове.

І разумелі звышчуццём словы Імшы пілігрымы ў Анконе — на шляху ў Апостальскую Сталіцу. У Анконе Імша адпраўлялася на дзвюх мовах. І незнаёмыя жанчыны маліліся на італьянскай мове, падобнай і непадобнай да сваёй высокай першакрыніцы — латыні. Але такою ласкаю і сардэчнасцю свяціліся іх твары пасля запрашэння святароў перадаць бліжняму знак спакою, што ўсё ўспрымалася ў нейкай новай, асаблівай духоўнай танальнасці, словы і дзеянні былі асвечаныя ззяннем таго, што ўзрушыла, скарыла душу — водбліскам адзінай, асноўнай, сапраўднай Рэальнасці, таго, пра што Блэз Паскаль мовіў: «Забыццё свету і ўсяго, акрамя Бога» («Агонь»).

Забыццё... У малітве. У Імшы. У літаніі. Але і ў непасрэдным дачыненні да Свету Божага, у эмпірыцы хараства — прыгажосці неба, мора, лесу, пагоркаў, гораў, дрэваў, кветак — ёсць нейкая ўнутраная насычанасць, глыбінны сэнс, якія нельга не адчуць.

І плыве ў бясконцасць мой дух,
*І соладка тануць мне ў гэтым моры.*

Гэта радкі са знакамітага твора Джакамо Леапардзі «L'Infinito» — «Бясконцасць». І калі я чытала «манаграфію душы» гэтага паэта — яго вершы — мне нечакана адкрылася, чаму неяк адчужана я ўспрымала А.П. Чэхава. Ён мне заўсёды падабаўся: тонкі, інтэлектуальны, настраёвы... Але нешта я ў ім не прымала і не ўспрымала. Не магла патлумачыць — што. Тут — даўмелася. І Леапардзі, і Чэхаў пакінулі гэты свет досыць рана, вялікі паэт Італіі — у 39 гадоў, вялікі расійскі празаік — у 44, абодва — хварэлі на сухоты. Матыў самоты — і ў аднаго, і ў другога. Але... Чэхаў не меў веры. Вось што я зразумела. Не тое каб ён быў атэіст, не. І запаведзяў ён трымаўся — як чалавек, урач, творца. Аднак ён — няверуючы. І «неба ў дыяментах», і — шчаслівыя будуць людзі праз сто гадоў, і лекар Чэхаў як хрысціянін лекуе падчас эпідэміі... Аднак утрапенне духу, стомленасць ад марнасці жыцця — не проста безвыходныя. У яго відавочна адчуваецца прыманне канечнасці жыцця. У Чэхава канец, смерць не маюць прасветленага этычнага значэння. І хай непасрэдна пра тое гаворкі няма, аднак адчуванне гэтага ёсць.

А ў Леапардзі, чалавека вельмі няпростага лёсу, хістанняў душэўных, складаных адносінаў з пабожным бацькам, мы абавязкова знойдзем: «Я... часта аплакваў у начным бязмоўі дух, што дадзены нам на імгненне» («Успаміны»), «я... блукаю пад іншым, нетутэйшым святлом, там, дзе знікае мая зямная сутнасць...» («Неадчэпная думка»), «Да вечнага прытулку пралажыць шлях мой дух» («Да маёй донны»; курсіў мой. — А.С.). У Джакамо Леапардзі вечнасць, «вечны прытулак» — за зямным існаваннем, у яго ёсць упэўненасць і вера ў шчасце «расці ўзростам Божым» (Клс 2,19). І гэтым імкненнем духу ён інтуітыўна быў заўсёды мне блізкі, падсвядома зразумелы.

Сапраўды — у знікомым нам пазначаецца Бясконцае, глыбінны, незвычайны кантэкст, Яго прысутнасць, Яго блізкасць. І найвышэйшае напружанне духоўных сіл адбываецца ў малітве, у сустрэчы з Богам, у самаадкрыцці Божым, у найвышэйшым містычным вопыце.

Mysterium — Таямніца. Таямніца Веры. Мудрасць Божая, што прыняла аблічча Таямніцы ўтоенай (1 Кар 2, 7). І найбольш мы імкнёмся да той Таямніцы ў шчаслівыя моманты набліжэння да Вікарыя Хрыста, Наступніка Пятра, Найвышэйшага Пастыра рымскага Касцёла — Яна Паўла ІІ. Падчас вандровак Папы, падчас пілігрымак у Апостальскую Сталіцу, падчас вывучэння яго кніг і энцыклік.

Veńtatis Splendor — ззянне Праўды. Праўды, пра якую Апостал Павел некалі сведчыў: «Дый гаворым не вучонымі словамі мудрасці чалавечае, але навучанымі ад Духа Святога» (1 Кар 2, 13). Гэта сапраўды тая Праўда, што недаступная нават разумнаму чалавеку, што вызнае толькі сваю прыродную моц, але даступная верніку, якога навучае Дух. І мы адчуваем Вялікі Цуд, цудадзейную моц малітвы з Вераю, набліжэнне да Таямніцы Хрыстовай, да вызнання сапраўднай Веры, сапраўднага Касцёла, «якому ўласціва быць адначасова і чалавечым, і Боскім, бачным і надзеленым нябачнымі рэальнасцямі» (Другі Ватыканскі Сабор, Канстытуцыя «Пра набажэнства». Уводзіны, 2). І адчуваем — «кожная рэальнасць ёсць дабро, бо яна створана Богам» (А. Дэмусцье. Законніцкае жыццё: прыпавесць яе гісторыі. «Символ», 1991. № 25. С. 25). І адчыняецца сэрца для Любові, для Ласкі Божай...

І застаюцца ў памяці — не проста фактам, а дзейснай, узрушальнай з'явай Боскай Прамудрасці, калі ўспамін абавязкова абарочваецца чаканнем. І ў хвіліны іспытаў і скрухі памяць ажыўляецца і суцешна нагадвае пра высокія моманты набліжэння да сапраўднай Радасці і Ісціны. І ўзмацняе той напамін удзелам у літургіі — кожнадзённай і ў нядзелю, дзень Панскі, і ў святы — успаміны людзей, што маюць вечную каштоўнасць.

І мы чуем у кожнай Святой Імшы: «Гэта чыніце на Маю памяць». І прымаем сакрамант Ахвяры Хрыстовай. «Гэта ёсць Цела Маё, якое за вас будзе выдана. ... Гэта ёсць келіх Крыві Мае, новага і вечнага Запавету, якая за вас і за многіх будзе праліта дзеля адпушчэння грахоў».

«Гэта чыніце на Маю памяць». І Пастыр католікаў усяго свету, Ян Павел II, тлумачыць нам: «Гэта памяць — прысутнасць. Таямніца гэтага цуду заключаецца ў дзеянні Духа Святога...» («Дар і Таямніца», с. 85). І адчуваем моц Яго Духу. Affectus mystycus. І жывем з гэтым у душы... У моманты шчаслівыя, і ў гадзіны іспытаў і выпрабаванняў...

І асвятляе нас моц Яго Духу — часам і нечакана. У саборы святога Пятра ў Рыме. Нават не падчачс Святой Імшы — у вольнай цішы святыні. У Асізі — у храме — не там, дзе знакамітыя роспісы Джотто, а ў строгім, аскетычным, светла-ружовым дольным касцёле: камень, лавы і крыж. Цішыня пасля Імшы. Высокі спакой. Нейкая духаносная, духаўздымная плынь... Нейкае найвышэйшае адкрыццё Духу. Нешта невымоўнае... «...дарма ласкай Ягонай» (Рым 3, 24) асветленая. Дзякуючы Провіду, не заслугам. З ласкі Бога ў Яго неймавернай міласэрнасці і літасці... І адчыняецца пераможная ў сваёй высокай пакоры Рэчаіснасць Божая.

Нешта падобнае мне пашчасціла адчуць у старажытнай, сечанай у скале святыні ў Сэнт-Эміліене, у Францыі. І ў пэўных, пазначаных Звыш варунках у касцёле Перамянення Пана, у маёй Белай Фары, у родным горадзе... У архікатэдры, у касцёле Імя Найсвяцейшай Марыі Панны — у Мінску...

У архікатэдры — куды іду я днём будзённым, у дзень Панскі ў нядзелю, у святы...

Affectus mystycus. Самаадкрыццё Божае, чуццё вялікай, іншай Рэальнасці. Вялікай Ласкі... Вялікай Любові. Містычная сустрэча. Калі чалавек ва ўладзе Яго.

«Будзь Воля Твая...»

Змяненне абрысу свету, асвячэнне жыцця, блізкасць Боскага — вызнанне містычнага вопыту. Боскае ўваходзіць у свет. Вечнае з намі і сярод нас — праз гістарычную з'яву: з'яўленне Сына Божага. Адчуванне Вышэйшай Боскай Рэчаіснасці, новы змест Існага — як стрыжань духоўны, як галоўная выснова жыцця.

... Часам чую ад сяброў, знаёмых пытанне: чым ты жывеш? як? дзе сілы знаходзіш? Бывае — адказваю. Здараецца — маўчу. Выпадае — спрабую падзяліцца, пераканаць... Які гэта вялікі Набытак — Вера. І як мацуе малітва, малітоўны роздум. Святая Імша, натхненне літургіі, святло асаблівых містычных імгненняў, гадзін, дзён...

… Наноў адчыняю дзверы святыні. Перад Святой Імшой згадваю living рознае. І вось гэтае: «Спадзявайся на Пана й добрае рабі, жыві на зямлі і цноту хавай; суцяшайся Панам, і Ён табе дасць, што сэрца тваё пажадае <…> і справядлівасць твая ўзыдзе, ты раніцы светласць, і праўда твая — быццам светласць палудня» (Пс 37, 3, 4, 6).

Перажываю сакральны рытуал Святой Імшы. Узвышаюся душой.

І наноў абнаўляецца жыццё.

«Праз Хрыста, з Хрыстом і ў Хрысце».

## ДА НЯБЕСНЫХ БРАМАЎ

Nature vis medicatrix. Так. Лекавая моц натуры. Дарэмна знаканіты паэт згадваў: «Я не ищу гармонии в природе». Ёсць яна, гармонія. Вечны цуд задуманага Творцам. Выратавальны цуд вясны, лета, восені, зімы. Выратавальны цуд хараства кожнага дрэва, кожнай кветкі, кожнай травінкі...

Мелодыя Светабудовы, музыка нябесных сфераў: Muzica Mundana — Музыка Сусвету. Спрычыненне да найвышэйшай, унутранай і арганічна існай праўды, што праясняецца Звыш, аб'ядноўваючы знешняе, вобразнае бачанне і чыста духоўнае, пазавобразнае, глыбока ўнутранае сузіранне. Іду да святыні, каб перажыць affictus mystycus (містычнае ўзрушэнне), узвысіцца душою, адысці ад мітусні свету... З яго радасцямі і няўладзіцамі, злагадай і дысанансамі, сэнсамі і бяссэнсіцай...

Гляджу на неба: вечнае і новае, маю асалоду ад духмянасці шыпшыны, язміну — апошнім часам усё ў нас зацвітае на месяц раней, як у былыя часы, і неяк хутка, ледзь не ўсё разам.

...Нібыта п'ю паветра — настоенае на водары вясновых зюйдвестаў і птушыным шчэбеце. Зімою акунаюся ў цішыню снежнага дня... А ўвосень прымаю чынны ўдзел у свяце фарбаў — апошні фэст клёнаў, бяроз, дубоў...

Лекавая моц натуры... Радасць Быцця... Радасць ад вялікага Дару Божага — жыцця... Імгненні Рэальнасці... Розныя...

Пан Бог даў мне гэтую якасць — умець радавацца розным выявам жыцця. І мець тое ў памяці. Не проста ў храналагічнай, а ў эмацыйнай, духоўнай.

...Лета сярэдзіны 1980-х. Вечарына аднаго вядомага пісьменніка. Паэта, празаіка, эсэіста, крытыка... Гучалі вершы... Гучала музыка... Незабыўная. Піяністка высвечвала гукамі нейкія сэнсы... Гэта быў той «асобы градус мастацтва» (Б. Пастарнак), што перадае ў імправізацыі найвышэйшую ступень аўтарскай задумы... Ірына Шуміліна... І на яе канцэрты мне пашчасціла трапляць... Шапэн, Шуберт, Шуман...

Насычаная лірычная культура, асаблівая духоўная энергія, чароўнасць незвычайнага ўслухоўвання ў свет...

Незадоўга пачула яе наноў... Зноў — паэзія і музыка. І тое спалучэнне, калі музыка — не проста выканаўца, інтэрпрэтатар, суаўтар...

Як Віктар Скарабагатаў: спявак, даследчык, шукальнік... Калі мы прысутнічаем на тым дзействе, якое называюць цудам. Цудам рытмаў, тэмбраў, вобразаў... Вытанчанасць і строгасць...

Увогуле мне ёсць што захоўваць у сваёй эмацыйнай памяці...

Святаслаў Рыхтэр, Леанід Коган, Давід і Ігар Ойстрахі, Ван Кліберн, Віктар Траццякоў, Юрый Башмет... Майстры нашага Купалаўскага... Тэатры Акімава, Ахлопкава, Юрыя Любімава... Тэатр «Вайнэмуйнэ»... Etc, etc, etc... Выпадкі сустрэч. З фільмам. Кнігай. Карцінай. Асобай... Тэлеперадачай... Радыёфактам...

Усё гэта немагчыма выявіць у пэўных паняццях, адасобіць ад пэўнага тону і ладу. Такія з'явы больш садзейнічаюць навяртанню, зменам, а не іх разуменню. Нашы памкненні і пачуцці — вызначанае Звыш — ці можна патлумачыць? Усё бачнае і чутае — таямніца... «Арфічныя» ўзрушэнні, узрушэнні чалавека, нават з багатай субстанцыяй думкі — ці магчыма іх спасціжэнне?

Ці розумам мы ўспрымаем знакамітую, усім вядомую забудову Брамантэ і Берніні на п'яцца Сан П'етро — святыню святога Пятра? Або знакаміты ансамбль на востраве Сітэ — Нотр-Дам дэ Пары, Сэнт-Шапель, палац Правасуддзя, Конс'ержэры? Або бажніцы ў Фларэнцыі, Парме, Балонні...

Санта Марыя Дэль Фьёрэ... Назва, нібыта праспяваная сапрана... Ці гэта гук чэлесты? Дэль Фьёрэ... Дэль Фьёрэ... Кветка... Назва, што кліча стацца «паэтам быцця» (Артэга-і-Гассэт).

А Арв'ето? Катэдра фра Бавіньятэ і Ларэнцо Майтані... Здалёк, з арэа дэль Соль, дарогі Сонца, святыня здаецца нават не проста забудовай, здзейсненай паводле задумы згаданых майстроў, а творам, стварэннем, што нясе ў сабе высокую трывогу і энергію Звыш. Як і абацтва Мон-Сэн-Мішэль... Як тыя бажніцы, кляштары, замкі, якія пашчасціла бачыць на яве, і тыя, што знаёмыя толькі паводле альбомаў, ілюстрацый кніг, фільмаў... Як знак Нябёсаў, відзежа, вялікасная выпадковасць... Пераможнае хараство... Цуд... Чар...

Цуд, калі гэта шматвяковая выкшталцонасць казачнай готыкі Міланскага сабора, цуд, калі гэта сціплая выверанасць гармоніі касцёла Святой Ганны ў Вільні або Сынкавіцкай бажніцы...

Чар, нават успамін пра які нясе ў сабе мудрасць стагоддзяў і наіўнасць дзяцінства... І нават калі мы не згадваем канкрэтна пра гэтыя дзівосы або пра музыку Баха ці Моцарта, яны жывуць недзе ў самых запаветных кутках душы, укалыхваючыся асобым, падсвядомым веданнем у літургіі, у роздуме, у малітоўным роздуме... Водар душэўных набыткаў, сэнсы мінулага — даўняга, што вядзе лік стагоддзям і тысячагоддзям, і нядаўняга, што вызначаецца межамі нашага існавання, перакрыжаванне ўнутранага, духоўнага і знешняга, асэнсавання жыцця і інтуітыўных імпульсаў, логікі ўчынкаў і прадвызначанасці зменаў.

Мы захоўваем у сваёй памяці сэнсы ў матэрыяльнай выяўленасці слоў і ў тых толькі пазначаных свядомасцю памкненнях і здагадках, якія не маюць пэўных форм, а только мройную і ледзь акрэсленую чуццём плынь свядомасці...

Біблія... Словы Айцоў Царквы — патрыстыка... Тэалагічныя творы. Перыядычныя выданні, з'яўленне якіх канкрэтна і відавочна нагадвае пра іншыя «полюсы Быцця»... «Наша вера». «Ave Maria», «Дыялог»...

Колькі ўвогуле засвоеных свядомасцю тэмаў, назваў, тэкстаў, імёнаў... Колькі там тугі па вечным... Па свеце вечных каштоўнасцяў. Боскай існасці... Колькі спробаў праз памылкі, заганы, жарсці, пакуты, мітусню ўчынкаў і падзей прарвацца да сапраўдных значэнняў, да існых сутнасцяў, у прастору шматмернага...

Пераклады паэтаў Французскай Плеяды Нінай Мацяш:

Усёмагутны Бог, дай мне ўвабраць душой
Тваёй Вялікаснасці хоць малую долю,
у сэрца мне ўтаўруй Тваю святую волю,
Каб зберагчы агонь духоўнасці маёй

*(Жак Грэвэн)*

Агонь духоўнасці — так... Толькі вышыні духу, толькі высокая энергія Быцця, толькі сутнасныя аналогіі... Уменне пачуць — праз стагоддзі — у духоўнай цышыні Слова Жыцця... Адчуць перажыванне душы — адчуванне ўнутранай мелодыі, пераможнай гармоніі...

І цяпер часта адкрываю белы томік — «Багаславі сустрэчу мне...»

Не, лепей кніга, мой Жамэн,
Чым прага золата пустая;
Прад чытачом, амогшы тлен,
З кніг вобраз творцы ажывае.

Вобраз творцы — у гэтых радках — П'ера Рансара. Вобраз творцы — Ніны Мацяш. Даўняе і надоўга... Контрапунктычна...

Ёсць і тое, што толькі нядаўна ўвайшло ў маё жыццё. Чаканасцю і нечаканасцю, душэўнай падзеяй. Кнігі серыі «Бібліятэка часопіса „Наша вера"», якія выйшлі з друку ў выдавецтве «Про Хрыста». Найперш — намаганнямі пісьменніцы, рэдактара гэтай серыі, галоўнага рэдактара «Нашай веры» Крыстыны Лялько і адданых веры і справе супрацоўнікаў гэтай установы.

Гарманічныя акорды паэзіі, пацвярджэнне Быцця сапраўднага, існага — праз звычайныя факты і падзеі і — праз падзеі біблійныя...

Як прысягальна-малітоўны акт веры прачытваецца новая кніга паэзіі Дануты Бічэль «На белых аблоках сноў».

да мяне Ты прыходзіла

ў домік маленькі
праз пабітыя шашалем сценкі

і гуляла праменьчыкам сонца
на лаве
Ave Maria Ave

за Табою прыходзім
з нікчэмнае смерці
па птушыных слядах
у абжытым месцы
па лабірынтах знявагі і зла
да святога святла
да святла

...Хрысціянская містыка... З глыбіняў духоўнага жыцця... Перажыванне душы... Нібыта простае, будзённае — «пабітыя шашалем сценкі», «праменьчык сонца на лаве» — але гэта ўсе прасветленае вобразам, аблiччам, жывой духоўнай прысутнасцю Маці Божай: радасцю Яе ўсяіснасці, вечнай Яе прысутнасці... Прысутнасці, якая згадвае пра Сустрэчу з Ім, пра навяртанне душы:

памерці у галечы жыць
больш не баюся анічога
іду сцяжынаю да Бога
срабрысты месячык дрыжыць

Уяўленне сябе на «белых аблоках сноў»... Як усведамленне, што ўсё чалавечае быццё, кожнае імгненне, кожны рух душы, кожнае спатканне з людзьмі ці асобай прасякнутыя Яго прысутнасцю, Яго апекаваннем — у Крыстыян Лялько, што сваёй кнігі паэзіі пакуль не выдала. З-за сціпласці? З-за звычкі па-хрысціянску думаць найперш пра іншых? Не ведаю. Аднак памятаю яе вершы — яднанне душы з Богам, акрыленасць ад гэтага ўсведамлення:

Разам
у незнаёмым старажытным месце
Адшукаем, дарогу да Божай Святыні.
Змучаныя хуткаю, спешнай хадою
Паспеем укленчыць перад Ім,
Жывым і Прысутным.
А пасля ў тваіх сумных,
харошых вачах
Я нечакана ўбачу
Водбліск Ягонай Любові

І гэта скажа мне больш
пра цябе,
Чым усе непачутыя словы...

Ідэальная духоўная сувязь, не проста парыў душы — адкрытасць сэрца, неад'емная ад таямніцаў Божага Наканавання:

Бо не мае пачатку Тое,
Што вечным завецца.

Гэтая містычная ўталентаванасць дае магчымасць успрымаць Рэальнасць звычайную ў святле Найвышэйшай Рэальнасці, калі ўласнае «я» саступае ўяўленню і ўсведамленню ў жыцці найперш Яго, з Яго праўдай Быцця. У Крыстыны Лялько. А вось чытаем у Галіны Тварановіч:

Далягляд губляецца ў высях.
Удзячнасць да слядоў Тваіх складаю.
Горняга і дальняга абшар яднае шчасце -
Твая сляза, ахвяра й ласка свету.
О Хрысце, памажы галінцы кволай
утрымаць пладоў цяжар жаданы...

Усёпераўзыходзячая Рэальнасць, Усёпераўзыходзячая Любоў — так адчувае Галіна Тварановіч прысутнасць Бога, Вечнага Жыцця, стыхію жыцця з Богам:

Гасподзь Бог,
Які спазнаў гэты свет,
акром як дотыкам, зрокам, слыхам,
найперш недасягальнай пакутаю
Спасай Збавіцеля Адзінага, -
Сам Любоў,
дае прыклад любові...

Той Любові, што ў памараку адчаю і ўбездані пакутаў сцвярджае закон свету Божага, закон Любові. Як у вершы Мар'яна Дуксы:

Ад касцельнай брамы да нябеснай
горкіх дзён і хвіляў не злічыць.
Нібы нехта хоча пагарчыць
Нашу долю, каб не стала прэсна.
Мы ўздыхаем і штодзень гарым
На агні сваіх расчараванняў.
Горка думаць, што твой век кароткі,
хоць жыццё бяскрайняе, як стэп.
Ты забыўся пра нябесны хлеб,
вечны хлеб, які заўжды салодкі.

Вечны хлеб... Вечныя тэмы... Таемна-асабістыя і сакральныя... Пра якія і згадваць складана... І весці гаворку няпроста... А прасякнуцца тым святлом паэзіі...

Ажно падысці да біблійнай тэматыкі ў прозе і драматургіі, пазначыць асобныя вобразы — не сціслымі і вызначальна-вобразнымі сродкамі паэзіі, а фабульна, сюжэтна, у эмпірыцы характараў і падзей — асобая адказнасць. Ірына Жарнасек узяла на сябе гэтую рызыку. Біблійныя сюжэты і проза, здавалася б, на звычаёвыя тэмы, дзе, аднак, фабульны фінал вызначае не нейкая развязка інтрыгі, а тое, што апелюе да суда Божага. Да першаасноўнага. Да таго, што знітоўвае звычайнае, будзённае — і Высокае, Вечнае... Да чаго мы звяртаемся і вяртаемся — так ці інакш...

Ад старонак кніг, ад музыкі, ад выяваў на выставах — пад адкрытае неба. Да дрэваў, птушак, кветак... Да Хараства, створанага Богам...

І хаця грэшная істота, чалавек, умее часам учыніць здзек і гвалт нават над Высокаю Красою — але гэта ўжо іншая гаворка. Адвечнае Быццё вызначаецца сутнасным, першаасноўным: нябёсы, зямля... Свядомасць прасвятляецца. І вызнаецца той шлях, якім так хацелася б ісці... Шлях, на якім мы кіруемся за Ім, Тым, хто адкрываецца душы як Увасобленая Ісціна... Як Усёпераможная Любоў... І памкнешся душою да тых Нябесных Брамаў... Праз выпрабаванні і спасціжэнні... Вызначаючы Таямніцы Пакутны колер...

## «НАПАІЎШЫ АДВЕЧНАЙ ЖУРБОЙ ІДЭАЛУ...»

### Ad Gloriam!

Мелодыя ўзносіцца ў неба. Высокая, чыстая, лёгкая. І здаецца: промні святла сыходзяць ад таго Абсалюту, што тоіцца ў глыбіні духоўнай існасці кожнага з нас і імкнецца да Бога. І адбываецца душэўная падзея, тое насычэнне душы Боскім, што выдае ўражаннем — сама Гармонія створанага Першатворнай светапарадку і светапогляднасці выяўляецца ў гэтых гуках.

Гукі ўваходзяць у нейкі мройны, містычны і адначасова пэўна вызначаны кантакт з такой фізічнай рэальнасцю, як бажніца Святога Ламбэрта ў Мюнстэры.

І двое музыкаў, безумоўна, адчуваюць гэта, прыйшоўшы да сценаў святыні. Імправізацыйная дынстынктоўнасць іх бемоляў і дыезаў відавочца падмацоўваецца, аднак, уяўленнем: яны вядуць толькі сваю партыю. Асноўнае ж — andante maestoso[3] ad majorem Dei Gloriam[4] — пазначана ўнутраным слыхам.

Ad Gloriam Dei — на хвалу Пана Бога — нібыта нячутны харал, магутны спеў, так бы мовіць, «тэрыторыі духу» (Б.Пастарнак): узвышанай готыкі сабору, яго шматзначных вітражоў, манахромна спакойных яго муроў; нячутная музыка ўсяго, што непадалёк бажніцы: велічна ўраўнаважанай катэдры ў раманскім стылі; ансамблевай забудовы вакол святыняў; непадробна прыгожага гістарычнага цэнтра Мюнстэра.

На хвалу Пана Бога — і тая непаўторная мелодыя, што гучыць у душы кожнага з нас — і супадае ў сваім метрарытме з мелодыяй флейты музыкі з вуліцы. І з хаpалам гэтых нібыта рэальных і нібыта містычных забудоў.

Душа Сярэднявечча, увасобленая ў камені... Калі мастацтва будаваць ператварылі ў навуку, архітэктара называлі «magister lapidem» — магістр каменнай будовы. Калі сакральнасць сэнсу выяўлялася як ланцуг вобразаў, трансфармаваных у камені, а біблійная сімволіка пазначала жывую сутнасць культуры.

Мы толькі што спрычыніліся да таямніцы Эўхарыстыі, што злучае кожнага верніка з вечна жывым Збаўцам. І свет успрымаецца ў неад'емнай залежнасці сэнсавых судачыненняў і неабходнасцяў.

---

[3] Andante maestoso (іт.) — запаволена і велічна. Andante (іт.) — У запаволеным тэмпе (муз.).
[4] Ad majorem Dei Gloriam (лац.) — на большую хвалу Бога.

Найвышэйшыя сутнасці нібыта набліжаюцца да нас — зрокава выяўленыя, пазначаныя абрысамі святыняў.

Мы — чацвёра каталікоў з міжканфесійнай групы з Беларусі, што бралі ўдзел у Міжканфесійным дыялогу ў Вестфаліі (1999 год): вядомая пісьменніца, рэдактар дзіцячага каталіцкага часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай» Ірына Жарнасек; навуковец і журналіст, супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі і літсупрацоўнік часопіса «Спадчына» Уладзімер Ляхоўскі; законнік-марыянін брат Вячаслаў Пялінак MIC і аўтар гэтых радкоў.

...Высокія хвіліны...

Таямніца камяніцаў, прастора сублімаваных у архітэктурныя формы задумаў, пазначаных Божым Наканаваннем...

...Брукаванка, што памятае розныя дні зямлі Westfallen — Вестфаліі. Брукаванка, па якой спяшаемся мы, вандроўнікі з Беларусі...

Наперадзе — наш добраахвотны гід, брат Вячаслаў Пялінак MIC. Лёгкі, спрытны, ён ледзь не ляціць над брукаванкаю Мюнстэра. Падобна, пракідвае ў сваёй памяці, свядомасці нешта з найвышэйшага свету ісцінаў, што-небудзь накшталт высноваў «райскага саду ідэй» («Ideenparadis»), паводле Наваліса, а нам пазначае канкрэтыку выяўленчых фактаў. Законнік-марыянін — у ім яшчэ жывая паэзія «ранішняй гадзіны» (Наваліс) — і пэўна выяўлены сакральная перакананасць і сталасць паклікання, адухоўлены імпэт прамоўцы казанняў, місіянера, што мае трывалыя веды і прагне імі падзяліцца. Ён з радасцю распавядае ледзь не пра кожную дэталь збудаванняў, кожную постаць барэльефаў, кожную выяву створанага ў імя Бога і з ласкі Божай.

Мы слухаем, дадаем нешта сваё. Слухаем маналог Хараства. Перажываем высокія імгненні прадчування светлай урачыстасці Боскай...

Тут, у Мюнстэры... Адштурхоўваючыся ад празаізму і мітусні вуліцаў. У Дортмундзе — калі крочым па яго бажніцах, імкнучыся адмежавацца ад прыземленага прагматызму штодзённасці. Калі падымаемся на званіцу бажніцы Святога Райнольдзі, калі пазбаўляемся хлуслівых жыццёвых сэнсаў адчуваючы высокую эстэтыку формы — у перагуку званоў, у магічнай энергетыцы і прыцягальнасці гэтага залатога россыпу гукаў, аднолькава блізкага і каталікам, і нашым сябрам — праваслаўным: Марыне Шырокавай, Івану Чароту, Міколу Матрунчыку, Алесю Шаўчуку. І, падобна, відавочна і слыхава — класічны гэты перазвон спрыяе экуменічным настроям: выканаўчы дырэктар Беларускай рэдакцыі Транссусветнага радыё, працу якога ажыццяўляюць евангельскія хрысціяне-баптысты, Сцяпан Пекун

запісвае на магнітафон голас бажніцы, і час ад часу ў нашай вандроўцы мы чуем знаёмыя перагукі званоў...

...Перачытваю першыя старонкі, і мільгае думка: мабыць, у маім аповедзе шмат суб'ектыўнага, але ж знак прыватных уяўленняў у такіх нататках — непазбежны. Хаця, маю надзею, гэта знак Dei volente — волі Божай.

## Laboremus!

Дзеля Міжканфесійнага дыялогу, як было згадана, у Дортмунд — цэнтр зямлі Вестфалія — прыехала дэлегацыя з Беларусі, якую склалі католікі, прадстаўнікі праваслаўнай артадоксії і евангельскія хрысціяне-баптысты.

З Божай ласкі тых, хто ладзіў імпрэзу, прапанавалі нам усім раскладам: «Laboremus!» — «Будзем працаваць!» Працаваць у супольнасці з Экуменічным таварыствам, Таварыствам хрысціянскіх Цэркваў, Каталіцкім цэнтрам, Евангелісцкай суполкай. З прадстаўнікамі ўсіх хрысціянскіх канфесіяў.

Калі мець на ўвазе канкрэтных асобаў, дык гэта найперш пастары Юдзіт Пальм (жанчыны-пастары — вынік новых павеваў у апошнія дзесяцігоддзі ў евангелічнай і англіканскай Цэрквах). І — доктар Альф Зайпель, што быў з намі неадменна, ад першага да апошняга дня.

Гэта ўсё людзі, якія даўно апякуюцца канкрэтнымі канфесійнымі сувязямі ў Беларусі.

Юдзіт Пальм мінулы год была ў Мінску. Працавала ў Міжнародным адукацыйным цэнтры. Імкнулася і імкнецца даць імпульс экуменічнай працы, пашырыць яе арэалы. Цяпер яна займаецца праблемамі экуменізму ў Іспаніі. Аднак не страчвае сувязі з Беларуссю.

Пастар доктар Альф Зайпель непахісна прытрымліваецца праграмы і цвёрдай рэгламентацыі: расклад ёсць расклад. Вызначаны Міжнародным адукацыйным цэнтрам горада Дортмунда ў Кірхенкрайс — Заходні Дортмунд. Менавіта дзякуючы запрашэнню гэтага цэнтра адбываецца наша вандроўка. Супрацоўнік Міжнароднага адукацыйнага цэнтра, каардынатар нашай групы Алесь Шаўчук, які мае вопыт працы ў Дортмундзе, праваслаўны, сябра Брацтва Трох віленскіх мучанікаў, арганізуе, вынаходзіць, дапасоўвае. І дапамагае пры выпадку знайсці патрэбныя слоўныя і семантычныя эквіваленты нашай перакладчыцы — Святлане Аляніцкай. Святлана ж не проста добрасумленна, а часам нават самаахвярна перакладае — былі дні,

калі з самага ранку да позняга вечара: розная праблематыка, розныя людзі, складаная стылістыка і няпросты лексікон.

«Laboremus!» Мы ўспрынялі гэты нікім не агучаны, але нібыта бясслоўна абвешчаны прынцып, дадаўшы да яго — таксама пра сябе — дэвіз заснавальніка ордэна бенедыкцінцаў Бенедыкта Нурсіа: «Ora et labora!» — «Маліся і працуй!» І імкнуліся падпарадкоўвацца гэтаму закліку. Нават перад ад'ездам з Дортмунда мы змаглі прыняць удзел у Святой Імшы ў адной з мясцовых каталіцкіх святыняў, дарогу да якой нам пазначылі гаспадар той хаты, дзе мясціліся мы з Ірынай Жарнасек, каталіцкі дыякан Бэда Брайдунг і яго жонка фрау Рэгіна, а таксама іх суседка, былая грамадзянка былога Саюза Маргарэт Мандау. А тамтэйшы святар блаславіў нас у дарогу.

Ну а ўмовы для працы ў Вестфаліі былі выдатныя. Незразумела — адкуль узнік стэрэатып пра стрыманую гасціннасць немцаў? Увага, добразычлівасць, спакойная злагада. Прыдатнае жытло для гасцей (былі выключэнні, аднак яны, як вядома, толькі пацвярджаюць правіла), выдатнае харчаванне. Ну а высакародную, шчодрую гасціннасць евангелісцкага пастара Франка Чэнчэра беларусы будуць памятаць доўга.

Што датычыць непасрэднай працы, дык нашы гаспадары найперш інфармацыйна «ўгрунтавалі» нас у мясцовасці, завёўшы ў першы ж дзень у ратушу Дортмунда. Памочнік бургамістра Эккарт Ральс правёў нас па шыкоўнай мадэрновай будове. Агромністы, светлы бюргерхалле — грамадзянская зала, дзе адбываюцца выставы, канцэрты, абрады шлюбаў. Шкляны купал, лёгкія люстры, галерэі... Раатзалле — зала для паседжанняў. Тут збіраецца Савет Дортмунда, у якім асноўныя галасы належаць партыі ХДС (хрысціянска-дэмакратычнага саюзу), хаця, як сцвярджаюць гаспадары, у палітыцы канфесійная прыналежнасць значэння не мае.

Эккарт Ральс сведчыць яшчэ раз пра тое, што мы пэўна бачылі на свае вочы. Дортмунд — гэта ўжо не шэры гаршчок з вугалем, жыхары якога малілі Бога, каб ён зрабіў неба над горадам блакітным. Зноў жа — стэрэатып, да якога мы прызвычаіліся: Рурскі каменнавугальны басейн, сталеліцейныя заводы, дым, смог. Усё гэта — у мінулым. Разбураны падчас вайны, горад паўстаў зялёны, увесь у кветках. Некалькі вёсак паяднаныя ў адзін горад — і Дортмунд мае ўсе перавагі горада ў спалучэнні з усімі дабротамі вёскі: катэджы, лесапаркі, дзе выдатна адчуваюць сябе і людзі, і вавёрачкі, і зайцы.

Міжволі вяртаешся думкаю да нашых гарадскіх экстэр'ерам.. І ландшафты ў нас не горшыя, і Бог не пакрыўдзіў — зяляніны, лясоў... Хараство... А мы ж так умеем засмеціць тое хараство... Але гэта —

асобная размова... Вернемся ў Дортмунд. У ратушу. Асобая, вызначальная канцэпцыя існавання ратушы Дортмунда — дом адчыненых дзвярэй. Бюргерхалле — месца яднання жыхароў незалежна ад веравызнання, маёмаснага статусу, сацыяльнага становішча.

Асноўная канцэпцыя існавання Каталіцкага цэнтра, што знаходзіцца непадалёк ад Ратушы, — стварэнне каталіцкага форуму: для каталікоў, для евангелістаў, для тых, хто не верыць. У аснову пакладзены ідэі святога Францішка з Асізі: несці казанне ў народ, быць разам з народам, вяртаць людзей да маральных і інтэлектуальных вытокаў хрысціянства.

У Каталіцкім цэнтры — 1000 пазаштатных супрацоўнікаў і 150 — штатных. Што датычыць штатнага персаналу, то ён павінен адпавядаць самым высокім патрабаванням: адукаванасць, эрудыцыя, наяўнасць асаблівага дару сейбітаў высокай духоўнасці.

У Цэнтры арганізаваны розныя рэлігійныя курсы, існуюць разнастайныя кансультацыйныя пункты, функцыянуе Каталіцкі клуб. Увогуле Каталіцкі цэнтр — духоўна-культуровы аазіс у горадзе, адна з самых прыгожых мясцінаў Дортмунда, дзе паядналіся сучаснасць і старажытнасць. Тут знаходзіцца і Пробстайн — архікатэдра, галоўны касцёл, што аб'ядноўвае 70 каталіцкіх парафіяў (колькасць каталіцкіх і евангелісцкіх суполак у Дортмундзе прыблізна аднолькавая.)

...Самая старажытная базыліка Дортмунда — некалі каталіцкая святыня, сёння евангелісцкая царква...

1200-ы — год яе заснавання... Спалучэнне готыкі і раманскага стылю... Два самыя старажытныя алтары... Подых эпохаў... І побач — крамы, склепікі гандляроў кнігамі (між іншым, не відаць таннай макулатурнай «прадукцыі», што засмеціла ўсе нашы кніжныя прылаўкі)... Кавярні пад адкрытым небам... Папахадзіць бы, сузіральным вокам спакойна агледзець, падумаць... Але ў нас праграма...

Цікавая... Пра гэта думаецца, калі з вышыні званіцы касцёла святога Райнольдзі глядзіш на Дортмунд. Горад, што, як і ўвесь край Вестфалія, як уся Германія, зведаў розныя часы. Немцы памятаюць іх. Вучоныя і тэолагі спрабуюць тлумачыць падзеі даўняй і нядаўняй гісторыі, сыходзячы з таго пастулату, што «хрысціянская вера, імкнучыся да «Я» Хрыста, сцвярджае Яго як Таго, у кім тоесныя асоба і справа» (Ё.Ратцынгер).

### Асоба і справа

Асоба і справа — недзе ў гэтым кірунку адбываецца міжканфесійны дыялог у Вестфаліі. І тады, калі нам чытаюць лекцыі, і тады,

калі госці з Беларусі выступаюць самі, працягваючы гаворку, распачатую чытаннямі на тэму «Роля асобы ў жыцці канфесій Беларусі ў XX стагоддзі» (травень 1999 г.).

...Сусветныя войны і рэлігія. Таталітарызм і рэлігія. Усе гэтыя праблемы датычаць немцаў непасрэдна.

Зусім нядаўняя гісторыя... Мінулае, што яшчэ не паспела пакрыцца выратавальна-ахоўнай пацінай часу. І ці магчыма тое? Жорсткія, неверагодныя факты, чорныя перыяды... Калі рэальнасць набывала фантасмагарычны кшталт, нармальныя катэгорыі этыкі і маралі былі проста адпрэчаныя, з'явіліся «навуковыя» формулы: «біялагічны патэнцыял ворага», «вайна — з'ява біялагічная», «смерць мільёнаў — зусім не трагедыя, а проста статыстыка». У арбіту вар'яцкай свядомасці і вар'яцкай рэальнасці ўцягвалася ўсё — нават рэлігія.

І арганізатары міжканфесійнага дыялогу паспрабавалі пазначыць шляхі тых, хто супрацьстаяў фашысцкай машыне. Думкай і справай, справай і думкай. Учынкамі.

І для немцаў, і для нас, для ўсёй паваеннай Еўропы, для ўсяго чалавецтва — пытанні балючыя і прынцыповыя. І з таго, і з другога боку — высвятляюць — светапоглядна, фатаграфічна, тэалагічна — ход падзеяў. Ролю асобы — на тую пару і заўсёды. Ролю хрысціянскай думкі, хрысціянскіх каштоўнасцяў, хрысціянскіх паводзінаў. Што былі занядбаныя і ў іх, і ў былым Савецкім Саюзе. Высвятляюць — не зважаючы на знакаміты аргумент задаўненасці часу.

Прамоўцы — суперінтэндэнт (у адстаўцы) Крыстаф В. Далькёттэр — у Мюнстэры і прафесар Манфрэд Цабель — у Фройдэнбергу — рэспавялі пра сапраўднага хрысціяніна і антыфэшыста, мужнага нямецкага прапэведнікэ Марціна Німёллера і «жаўнера думкі», швейцарскага вучонага і тэолага Карла Варта.

І госці з Беларусі — хто згадаў вядомае, хто — падсвежыў веды, хто — даведаўшыся ўпершыню — слухалі пра цвёрдую пазіцыю Марціна Німёллера, за якую яму давялося разлічвацца канцлагерам, пра тэалагічныя, філасофскія, грамадзянскія высновы Карла Барта, што доўга і плённа працаваў у Германіі, выкладаючы ва універсітэтах і выдаючы тут свае навуковыя працы, быў на радзіме Гегеля і Гётэ слынным, знаным, прызнаным.

«Царква не павінна падпарадкоўвацца ўладам», «Уладар — толькі Бог». «Гонар чалавека, яго годнасць — неадменныя». Гэта ўсё тыя высновы, з-за якіх Карл Барт быў пазбаўлены ўсіх навуковых званняў у Германіі і высланы ў Базель.

...Хрысціяне... Асобы... Яны даюць нам магчымасць уведаць — так, Гітлер разагнаў Сінод, так, існавалі нямецкія хрысціяне, якія

стварылі Нямецкі Хрысціянскі Сінод, так, гэты Сінод падтрымаў Гітлера і падтрымаў ганенні габрэяў. Але ж быў у 1933 годзе і зварот Німёллера да 18 тысяч пастараў Германіі, і 7 тысяч пастараў падтрымалі Німёллера.

І гэта Марцін Німёллер абвясціў: «Не хачу быць нямецкім хрысціянінам, але хачу быць хрысціянінам-немцам». І гэта ён пасля выхаду з канцлагеру нікога не абвінаваціў, аднак пакаяўся сам.

І гэта Карл Барт, швейцарскі тэолаг і мысляр, як зазначалася, не менш вядомы і ў Германіі, абвяшчаў у самыя змрочныя гады праўлення нацыстаў: «Дзяржава не мае права ахоўваць Пана Бога». «Служба Гітлеру — служба ідалу». І гэта яго, Карла Барта, апошнія словы былі: «Будзе правіць Бог».

...Прамоўцы ў Мюнстэры і Фройдэнбергу па-рознзму вызначалі акцэнты ў сваіх дакладах, па-рознаму будавалі іх. Суперінтэндэнт у адстаўцы Крыстаф-В. Далькёттэр аддаў перавагу дэталізацыі фактаграфічнага матэрыялу, храналогіі жыцця Марціна Німёллера. Прафесар Марцін Цабель засяродзіўся на канцэптуальных момантах творчасці Карла Барта, імкнуўся падаць матэрыял маштабна, але лапідарна і ёміста. Даводзіў — пераканаўча, — што меркаванне пра ўплыў філасофіі экзістэнцыялізму — недакладнае. Барт — не прыхільнік ідэй Хайдэгера і Сартра, запэўніў прафесар, гэта выпадак, адэкватны выкарыстанню Тамашам Аквінскім катэгорый Арыстоцеля: дзеля таго, каб сцвердзіць — Бог вечны.

Прафесар Манфрэд Цабель не толькі рабіў сэнсавыя кантрапункта. Ён насычаў гаворку эстэтычна, вобразна. І мы даведаліся, што Карл Барт любіў Моцарта: «Калі я памру, дык спадзяюся, на небе будуць граць «Маленькую начную серэнаду». І скончыў лекцыю прафесар словамі Барта: «Ніколі не спяшайцеся гасіць люльку». І красамоўным жэстам запаліў сваю.

А нам, прынамсі каталікам, падумалася, што прафесар Манфрэд Цабель наўрад ці прымаў удзел у распрацоўцы праграмы нашага візіту. Праграмы размаітай і змястоўнай. Праўда, у ёй не заўсёды ўлічваўся фактар нашага кароткага знаходжання ў Вестфаліі. І Мюнстар, епіскапскі каталіцкі горад, у якім месціцца Каталіцкая Акадэмія, Мюнстар гістарычны, Мюнстар прыгожы, то заставаўся для нас за вокнамі гасціннай Дыяканічнай службы, то воляю гісторыка Сабіны Альфінг паўставаў схемамі і малюнкамі, якія добрасумленна дэманстравала даследчыца... А жывы горад быў побач... Горад, камяні якога памяталі Трыццацігадовую вайну і Вестфальскі мір, царства жаху, калі Ганс Воккальд абвясціў сябе «Хрыстом Цэзарам», а маёмасны і славуты бюргер Кніппердоллінг з радасцю стаўся катам...

Горад, што памятаў і вакханалію бясконцай гульбы, і пазней — помараку і голаду... Памятаў і вяртанне Боскіх антыноміяў: Закона і Ласкі, вяртання да Законаў Хрыста ў жывой рэлігійнай практыцы... Памятаў многае...

...Дзве гадзіны ў нас засталіся для спаткання з горадам — пра тое была гаворка. Спатканне ўсё ж адбылося. Аднак Мюнстэр — адзін з самых яскравых помнікаў трыумфавання хрысціянскай культуры, хрысціянскага дойлідства, палымнеючай готыкі... Адна з тых мясцінаў на зямлі, ураженне ад якой жывіць быццё...

А ў Фройдэнбергу, дарэчы, у Акадэміі Густава Хайнемана, нам за сціслы час прачыталі і бліскучую лекцыю пра Карла Барта, і распавялі пра таго, чыё імя носіць Акадэмія, і пра Фонд Фрыдрыха Эберта (адзін з 6-ці палітычных фондаў Германіі), і пра наладжванне семінараў у Акадэміі пад дэвізам «Грамадзянская супольнасць», дзе вялікую ўвагу надаюць ролі культуры, мастацтва, літаратуры ў палітычным і грамадскім жыцці. Кіраўнік Акадэміі, палітолаг і гісторык Ёган Ханэль, як і прафесар Манфрэд Цабель, аддаў перавагу сціслай, канцэптуальна насычанай форме выкладання, што пакідала досыць часавай прасторы для нашых пытанняў і развагаў. Што датычыць пытанняў, дык тут вёў рэй гісторык і журналіст Уладзімер Ляхоўскі. Яго разнастайныя веды (адчувалася практыка ў энцыклапедычным выдавецтве як супрацоўніка і аўтара) падштурхоўвалі думку прысутных, змушалі да скрупулёзнай дакладнасці.

Добра прадуманы хранаметраж заняткаў даў нам магчымасць спакойна пазнаёміцца з Фройдэнбергам — прыгожым курортным гарадком. Ён увесь — з фахверкавых дамоў, зеляніны, квецені і чысціні. І нейкай асаблівай утульнасці. Нібыта ажыла ілюстрацыя да якой нямецкай казкі.

Аднак жыццё прапануе іншыя, не казачныя сюжэты...

## Сялібы міласэрнасці

...Жыхары дэмакратычнай Германіі любяць паўтараць, што іх гісторыя пачыналася не з 12 гадоў улады Гітлера, што ў іх даўнія і трывалыя не толькі палітычныя, грамадскія, культуровыя, але і этычныя, філантрапічныя традыцыі. Таму нездарма значнае месца ў нашай праграме займала наведванне моладзевай хрысціянскай вёскі Оеспель і Дыяканіі ў Білефельдзе.

Дыяканія — міласэрнасць. У Оеспелі і ў Білефельдзе дапамагаюць знайсці сваё месца ў жыцці людзям, якім менавіта неабходная яна — хрысціянская міласэрнасць.

У Оеспелі за 2 гады атрымліваюць адукацыю і прафесію маладыя людзі, што не маюць магчымасці зрабіць гэта ў звычайных умовах. З-за адхіленняў у псіхіцы ці фізічных недахопаў, з-за няздольнасці сацыяльна адаптавацца ў грамадстве.

Навучэнцы атрымліваюць прафесіі слесараў, апрацоўшчыкаў металу, разьбяроў, краўцоў, садоўнікаў — спецыялістаў па ландшафце, цырульнікаў, фларыстаў. Ім дапамагаюць уладкавацца на працу.

Ёсць у Оеспелі і сектары камунальных і побытавых паслугаў. Існуюць так званыя экалагічныя майстэрні, куды трапляюць старыя тэлевізары, радыёпрыёмнікі. Выбіраюцца складовыя часткі, пластмаса — да пластмасы, медзь — да медзі і г.д. Для гаспадаркі Германіі гэта вельмі патрэбная праца.

Такіх моладзевых вёсак у Германіі існуе звыш 150-ці. Гэта — Оеспель — стваралася ў 1947 годзе. І ад пачатку павага да навучэнцаў, да іх асабістага, прыватнага жыцця сталася асновай установы. У кожнага з выхаванцаў свой пакой і ніхто (!) не мае права зайсці туды — нават настаўнікі.

Між іншым, для навучэнцаў прыналежнасць да якой-небудзь хрысціянскай канфесіі — неабавязковая. (Хаця намаганні па духоўным і хрысціянскім выхаванні — адзін з асноўных прынцыпаў навучальнай установы.) А вось для выхавацеляў хрысціянскае веравызнанне — напачатку пажаданае, а калі праз пяць-шэсць гадоў выкладання настаўнік так і не вызначыўся з якой-небудзь хрысціянскай канфесіяй, дык ён павінен будзе пакінуць вёску Оеспель.

Пра ўсё гэта і многае іншае нам распавялі ў вёсцы, шмат чаго расказаў і паказаў наш Алесь Шаўчук, што ў сваю пару працаваў у моладзевай вёсцы Оеспель выкладчыкам. Яго прымалі тут як сябра, аднадумцу, жаданага госця, хрысціяніна.

...Сацыяльны рух пад знакам хрысціянства — з гэтага пачыналася і філантрапічная, дыяканічная дзейнасць у Білефельдзе. Спачатку — дапамога эпілептыкам, якія сталі ў другой палове XIX стагоддзя ў індустрыялізаванай Германіі непатрэбнымі і сям'і, і грамадству. Пазней пачалі дапамагаць інвалідам, псіхічна хворым. Штуршок дыяканічнай дзейнасці ў Білефельдзе даў прадстаўнік аднаго з самых слынных арыстакратычных родаў Фрыдрых фон Бодэльшвінг Старэйшы. Пераўжыўшы разам са сваёю жонкаю жудасную трагедыю — яны страцілі чатырох дзяцей — ён у 1872 годзе прыняў кіраўніцтва ўстановамі ў Білефельдзе. Набыўшы на працягу 1872-1910-х гадоў усе землі вакол Білефельда, ён стварыў цэлую сістэму установаў: ад амбулаторый, шпіталяў і клінік да розных майстэрняў. Дарэчы, майстэрні Білефельда наладжваюць сваю дзейнасць не толькі

паводле рознага кшталту заняткаў — сталяры, маляры, перапрацоўшчыкі мяса, — але і згодна з псіхафізічнымі магчымасцямі насельнікаў Білефельда. Ёсць такія, дзе прад'яўляюцца самыя высокія патрабаванні да якасці вырабленага, ёсць майстэрні для інвалідаў, дзе займаюцца найбольш упакоўкай, мантажом, урэшце — ёсць установы чыста тэрапеўтычнага кірунку: выключна дзеля захавання працоўных звычак.

Сённяшні Білефельд, якім доўга апекаваўся і сын Бодэльшвінга-старэйшага — Фрыдрых фон Бодэлыпвінг-малодшы, — гэта адзін з найбуйнейшых у Еўропе цэнтраў міласэрнасці з адгалінаваннямі ў іншых рэгіёнах Германіі. У Білефельдзе — да 10000 супрацоўнікаў розных прафесій. І дзейнасць Цэнтра, як зазначае пастар Вольхютэр, самая разнастайная. Акрамя згаданай ужо дапамогі эпілептыкам, інвалідам, псіхічна хворым, тут апякуюцца беспрытульнымі, моладдзю, старымі. Тут ёсць дамы хуткай дапамогі, тут дапамагаюць ласавацца алкаголікам і наркаманам, уладкоўваюць сем'і, дзе бацькі — хворыя, а дзеці — здаровыя.

У Білефельдзе існуе царкоўная школа багаслоўя, дзе 40% пастараў евангелічнай і лютэранскай цэркваў абавязкова падчас навучання праводзяць семестр ці больш.

Вопыт Білефельда — неацэнны. Тут ёсць чаму вучыцца. І супрацоўнікі ахвотна перадаюць свой вопыт іншым.

З нашай міжканфесійнай групы да практыкі ўстаноў Білефельда з асаблівай увагай прыглядаўся пастар царквы евангельскіх хрысціянаў-баптыстаў у Бараўлянах Алег Балутэнка. Зразумела — чаму. Колькі людзей з Рэспубліканскага анкалагічнага цэнтра на мяжы адчаю маюць патрэбу ў душпастырскай дабрачыннасці. Колькі — наноў павінны знайсці сваё месца ў грамадстве! Колькі — прыйсці да высноваў хрысціянства: адыходзячы з гэтага свету ці вяртаючыся да яго турботаў і згрызотаў... Праз пакуты і страты...

### «Ад паўнаты сэрца прамаўляюць вусны»

Праз пакуты... І адстойваючы веру... Гэта спазнаў на ўласным лёсе намеснік епіскапа Мінскай вобласці евангельскіх хрысціянаў-баптыстаў, член Мінскай цэнтральнай баптысцкай царквы, старшыня Мінскай місіі Рыгор Падвес. Ён зведаў на поўніцу ганенні і ўціск былых уладаў былога Саюза. Можа таму яго аповед і аповеды іншых евангельскіх хрысціянаў-баптыстаў — згаданых ужо Сцяпана Пекуна, Алега Балутэнкі, а таксама Германа Родава — пра сваіх аднаверцаў Луку Дзекуць-Малея, Васіля Паўлава, Гвана Праханава — насычаныя

трагічнымі фактамі біяграфій, драматычнымі сюжэтамі нядаўняй рэчаіснасці.

Евангельскія хрысціяне-баптысты найперш аддалі перавагу менавіта фактам, вызнаючы і падкрэсліваючы разгалінаванасць баптысцкіх суполак, іх інтэрнацыянальнасць. Часта згадваючы Асацыяцыю Віллі Грэма.

Прадстаўнікі артадаксальнага праваслаўя скіравалі гаворку ў больш праблемны, абагульнены, навукова-тэалагічны бок. Г — гэта адразу адчулася — засноўваючы выступленні на грунце агульнахрысціянскіх каштоўнасцяў і вызначэнняў, выводзілі гаворку на экуменічную «арбіту» з рэаліяў і персаналіяў той зямлі, якую мы прадстаўлялі ў Вестфаліі, — Беларусі. Нашай роднай зямлі.

Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры славістыкі БДУ, перакладчык, сакратар Біблійнай камісіі Іван Чарота скарыстоўвае свой багаты навуковы вопыт, канфесійную дасведчанасць і вернасць веравызнанню, каб пазначыць агульнатэарэтычны аспект разглядаемай праблемы: «Роля асобы ў жыцці канфесій...»

І ён вядзе размову пра тое, што засяроджвацца на міжканфесійных супярэчнасцях — непрадукцыйна, аднак замоўчваць іх таксама нельга. Што ролю асобы ў рэлігійным жыцці трэба разглядаць у праекцыі на беларускі матэрыял — безумоўна, разглядаючы яго ў агульнаеўрапейскім кантэксце. Што нацыянальныя і канфесійныя спалучэнні — пытанне вельмі няпростае. Што знак асобы ў рэалізацыі пэўных ідэй — неацэнны. Што ў пару афіцыйнага дзяржаўнага атэізму роля і значэнне кожнай асобы, кожнага парафіяніна — мелі асобую вагу, былі падзеяй вызначальнай у свядомасці грамадства.

Высокі ўзровень выступлення Івана Чароты падтрымлівае старшыня Праваслаўнага Беларускага Брацтва Трох віленскіх мучанікаў і старшыня Круглага стала Міжцаркоўнай дапамогі ад Сусветнай Рады цэркваў Мікола Матрунчык сваім аповедам пра вядомага беларускага грамадзянска-палітычнага і царкоўнага дзеяча Аляксандра Каўша, святара беларускай праваслаўнай царквы, прыхільніка аднаўлення беларускай дзяржаўнасці, рэдактара выдання «Беларуская зарніца», чалавека, што быў расстраляны немцамі за выратаванне габрэяў.

Ён вельмі ўдала кампануе сваё выступленне — сціслае, насычанае думкай і спробай зразумець і асэнсаваць правамоцнасць чалавечага слова, што залежыць — першаасноўна і трывала — ад веры ў Слова Божае, тое самае, што было «напачатку».

Спрабавала свае сілы ў навуковым асэнсаванні ролі асобы ў канфесійным жыцці і жыцці грамадства ўвогуле, распавядаючы пра беларускага праваслаўнага асветніка, педагога, гарачага прыхільніка

